# КНІГА БЕЛАРУСІ
## 1517–1917
## ЗВОДНЫ КАТАЛОГ

ЗМЕСТ



СОДЕРЖАНИЕ

# КНІГА БЕЛАРУСІ
## 1517–1917
## ЗВОДНЫ КАТАЛОГ

## АД СКЛАДАЛЬНІКАЎ

Складанне зводных рэтраспектыўных каталогаў друкаванай кнігі – важная задача бібліяграфіі. Такія каталогі з'яўляюцца неабходнай першаснай асновай для вывучэння працэсу станаўлення і развіцця ўсіх сучасных навук, якія ў той ці іншай ступені абапіраюцца на дасягненні айчыннай і сусветнай гісторыі ў самым шырокім сэнсе – уласна гістарычнай навукі, гісторыі грамадска-палітычнай думкі, духоўнай і матэрыяльнай культуры, мастацтва, філасофіі, філалогіі, эканомікі, прыроды, этнаграфіі і г. д. Пісьменнасць і кнігадрукаванне адыгрываюць значную ролю ў развіцці чалавецтва, у станаўленні нацыянальных культур і міжнародных духоўных сувязей.

Работа над серыяй рэтраспектыўных выданняў зводнага каталога, аб'яднаных пад агульнай назвай «Кніга Беларусі», непасрэдна пачалася ў 1972 г., калі ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (сёння – Нацыянальная бібліятэка Беларусі) быў створаны сектар зводных каталогаў. Гэта серыя павінна ахапіць наступныя тэматычныя раздзелы: старадрукаваныя кірылічныя кнігі XVI–XVIII стст.; кнігі XIX – пачатку XX ст. на беларускай мове; кнігі XIX – пачатку XX ст. на рускай мове; кнігі XVI–XVIII стст. лацінскага шрыфту; кнігі XIX – пачатку XX ст. на замежных мовах.

Вынікам першага этапа работ было выданне ў 1986 г. зводнага каталога «Кніга Беларусі. 1517–1917», які уключыў першыя тры раздзелы серыі.

Асноўныя прынцыпы рэтраспектыўнага апісання друкаванай кнігі добра распрацаваны ў бібліяграфіі і пакладзены ў аснову прапанаванага чытачу выдання.

Кнігі Беларусі XIX – пачатку XX ст. апісаны ў каталогу ў двух раздзелах: «Выданні на беларускай мове» і «Выданні на рускай мове».

Прынцып падбору літаратуры ў гэтых раздзелах розны. Беларускамоўныя кнігі ўлічаны ўсе незалежна ад таго, дзе яны былі выдадзены, таму што большая іх частка у XIX – пачатку XX ст. выдавалася за межамі Беларусі. З выданняў на рускай мове зарэгістраваны толькі тыя, што выдадзены на тэрыторыі Беларусі. Падрабязна прынцып адбору бібліяграфічнага матэрыялу і апісання беларускіх выданняў пададзены ў прадмовах да адпаведных частак каталога.

Работу складальнікаў дадзенага каталога ў значнай ступені ўскладняла тое, што да гэтага часу на Беларусі не былі ўлічаны ўсе кнігі, якія выйшлі на яе тэрыторыі ад XVI да пачатку XX ст. Многія помнікі кніжнай культуры не зберагліся да нашага часу. Нават у самым поўным зборы нацыянальнай кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі многія выданні адсутнічаюць. Усё гэта ўскладняла працу вучоных, патрабавала значных затрат часу на выяўленне неабходнай літаратуры.

У працэсе складання каталога былі выкарыстаны кніжныя фонды навуковых бібліятэк і музеяў Беларусі, а таксама замежных (у першую чаргу расійскіх) збораў, у якіх прадстаўлены значныя калекцыі беларускіх выданняў.

Вялікую метадычную і практычную дапамогу складальнікам аказвалі вядучыя бібліяграфічныя і навуковыя кнігазнаўчыя цэнтры Беларусі, Расіі, Украіны і інш. Складальнікі выказваюць глыбокую падзяку ўсім навуковым супрацоўнікам і бібліёграфам, якія аказалі істотную дапамогу ў выяўленні беларускіх дарэвалюцыйных выданняў, – Л. А. Анасовіч, Г. Ф. Грышынай, Г. М. Ермалаевай, Г. В. Кісялёву, Ю. А. Лабынцаву, В. І. Лук'яненка, А. І. Мальдзісу, Я. Л. Неміроўскаму, І. У. Саламевічу.

Развіццё інфармацыйных тэхналогій пашырае магчымасці бібліяграфічнага апісання дакументальнай спадчыны нашай краіны. З 2004 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі пачала выпуск электронных выданняў на CD-ROMах. У сувязі з гэтым з'явілася ідэя зрабіць электроннае перавыданне зводнага каталога «Кніга Беларусі».

Выкарыстанне сучасных тэхнічных сродкаў дазволіла стваральнікам праекта аздобіць каталог якасным ілюстрацыйным матэрыялам са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і значна пашырыць магчымасці пошуку і навігацыі ў тэксце каталога. На дыску таксама

змешчаны электронныя паўнатэкставыя копіі 12-ці выданняў, уключаных у каталог.

Першы раздзел «Старадрукаваныя кірылічныя кнігі XVI–XVIII стагоддзяў» дапоўнены звесткамі пра экзэмпляры выданняў, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, набытыя за 20 гадоў пасля выхаду ў свет зводнага каталога.

Асноўная мэта электроннага перавыдання зводнага каталога «Кніга Беларусі» – папулярызацыя нацыянальнай дакументальнай спадчыны, якая з'яўляецца адной з найвялікшых каштоўнасцей нашай краіны. Каталог дапамагае азнаёміцца з гісторыяй беларускага кнігадрукавання, уласнымі вачыма пабачыць помнікі даўно мінулай эпохі.

Стварэннем электроннага рэсурса «Кніга Беларусі» Нацыянальная бібліятэка Беларусі распачынае новы этап вялікай навукова-даследчай работы па найбольш поўнай рэканструкцыі рэпертуару беларускай кнігі на працягу ўсёй гісторыі кнігадрукавання на Беларусі.

Складзены ў 1970–80-я гг. XX ст. зводны рэтраспектыўны каталог беларускай друкаванай кнігі падлягае значнай сэнсавай перапрацоўцы згодна з самымі новымі дасягненнямі кнігазнаўчай навукі і распрацоўкамі ў галіне тэарэтычных прынцыпаў і методык стварэння нацыянальнай бібліяграфіі. У каталогу будуць адлюстраваны беларускія старадрукі і выданні XIX – пачатку XX ст., выяўленыя даследчыкамі за апошнія 20 гадоў у беларускіх і замежных кнігазборах, а таксама тыя кнігі, якія раней не былі ўключаны ў зводны каталог па ідэалагічных прычынах. Чакаюць уліку і даследавання кнігі, якія выходзілі ў Беларусі на замежных мовах, выданні савецкага і постсавецкага перыяду. Асобныя апісанні, прадстаўленыя ў каталогу, будуць дапоўнены звесткамі пра выяўленыя новыя экзэмпляры выданняў, іх асаблівасці, месца захоўвання. Прадугледжваецца перапрацоўка бібліяграфіі да апісанняў выданняў і спісаў кнігазнаўчай літаратуры па прадстаўленай тэматыцы. Дапрацаваныя версіі зводнага каталога будуць тэрмінова выдавацца па меры накаплення новых звестак.

Улічваючы, што бібліяграфія такога аб'ёму не можа быць вычарпальнай, складальнікі і выдаўцы спадзяюцца атрымаць ад зацікаўленых чытачоў дадатковыя звесткі пра выданні, не ўключаныя ў гэты каталог або апісаныя па дэфектных экзэмплярах.

Праект «Кніга Беларусі» падрыхтаваны ў межах праграмы «Памяць Беларусі».

Дадзенае выданне будзе карысным і цікавым для даследчыкаў гісторыі кніжнай культуры Беларусі, літаратуразнаўцаў, супрацоўнікаў бібліятэк, архіваў, музеяў, а таксама ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі.

# КНИГА БЕЛАРУСИ
## 1517–1917
## СВОДНЫЙ КАТАЛОГ

## ОТ СОСТАВИТЕЛЕЙ

Составление сводных ретроспективных каталогов печатной книги – важная задача библиографии. Такие каталоги являются необходимой первичной основой для изучения процесса становления и развития всех современных наук, которые в той или иной мере опираются на достижения отечественной и мировой истории в самом широком смысле – собственно исторической науки, истории общественно-политической мысли, духовной и материальной культуры, искусства, философии, филологии, экономики, природы, этнографии и т. д. Письменность и книгопечатание играют значительную роль в развитии человечества, в становлении национальных культур и международных духовных связей.

Работа над серией ретроспективных изданий сводного каталога, объединенных под общим названием «Книга Беларуси», непосредственно началась в 1972 г., когда в Государственной библиотеке БССР им. В. И. Ленина (сегодня – Национальная библиотека Беларуси) был создан сектор сводных каталогов. Эта серия должна охватить следующие тематические разделы: старопечатные кириллические книги XVI–XVIII вв.; книги XIX – начала XX в. на белорусском языке; книги XIX – начала XX в. на русском языке; книги XVI–XVIII вв. латинского шрифта; книги XIX – начала XX в. на иностранных языках.

Результатом первого этапа работ было издание в 1986 г. сводного каталога «Книга Беларуси. 1517–1917», который включил первые три раздела серии.

Основные принципы ретроспективного описания печатной книги хорошо разработаны в библиографии и положены в основу предложенного читателю издания.

Книги Беларуси XIX – начала XX в. описаны в каталоге в двух разделах: «Издания на белорусском языке» и «Издания на русском языке». Принцип подбора литературы в этих разделах разный. Белорусскоязычные книги учтены все независимо от того, где они были изданы, потому что большая их часть в XIX – начале XX в. издавалась за пределами Беларуси. Из изданий на русском языке зарегистрированы только те, которые были изданы на территории Беларуси. Подробно принцип отбора библиографического материала и описания белорусских изданий дан в предисловиях к соответствующим частям каталога.

Работу составителей настоящего каталога в значительной степени осложняло то, что до этого времени в Беларуси не были учтены все книги, вышедшие на ее территории с XVI до начала XX в. Многие памятники книжной культуры не сохранились до нашего времени. Даже в самом полном собрании национальной книги в Национальной библиотеке Беларуси многие издания отсутствуют. Все это затрудняло работу ученых, требовало значительных затрат времени на выявление необходимой литературы.

В процессе составления каталога были использованы книжные фонды научных библиотек и музеев Беларуси, а также иностранных (в первую очередь российских) собраний, в которых представлены значительные коллекции белорусских изданий.

Большую методическую и практическую помощь составителям оказывали ведущие библиографические и научные книговедческие центры Беларуси, России, Украины и др. Составители выражают глубокую благодарность всем научным сотрудникам и библиографам, оказавшим существенную помощь в выявлении белорусских дореволюционных изданий, – Л. А. Анасович, Г. Ф. Гришиной, Г. М. Ермолаевой, Г. В. Киселеву, Ю. А. Лабынцеву, В. И. Лукьяненко, А. И. Мальдису, Е. Л. Немировскому, И. В. Соломевичу.

Развитие информационных технологий расширяет возможности библиографического описания документального наследия нашей страны. В 2004 г. Национальная библиотека Беларуси начала выпуск электронных изданий на CD-ROMах. В связи с этим возникла идея создания электронного переиздания сводного каталога «Книга Беларуси».

Использование современных технических средств позволило создателям проекта дополнить каталог качественным

иллюстрационным материалом из собраний Национальной библиотеки Беларуси и значительно расширить возможности поиска и навигации в тексте каталога. На диске помещены также электронные полнотекстовые копии 12-ти изданий, включенных в каталог.

Первый раздел «Старопечатные кириллические книги XVI–XVIII веков» дополнен сведениями об экземплярах изданий, хранящихся в Национальной библиотеке Беларуси, приобретенных за 20 лет, минувших со времени выхода в свет сводного каталога.

Основная цель электронного переиздания сводного каталога «Книга Беларуси» – популяризация национального документального наследия, которое является одним из ценнейших достояний нашей страны. Каталог помогает ознакомиться с историей белорусского книгопечатания, воочию увидеть памятники давно минувшей эпохи.

Созданием электронного ресурса «Книга Беларуси» Национальная библиотека Беларуси начинает новый этап большой научно-исследовательской работы по наиболее полной реконструкции репертуара белорусской книги на протяжении всей истории книгопечатания в Беларуси.

Составленный в 1970–80-е гг. XX в. сводный ретроспективный каталог белорусской печатной книги подлежит значительной смысловой переработке согласно новым достижениям книговедческой науки и разработкам в области теоретических принципов и методик создания национальной библиографии. В каталоге должны быть отражены белорусские старопечатные книги и издания XIX – начала XX в., выявленные исследователями за последние 20 лет в белорусских и иностранных книжных собраниях, а также книги, не вошедшие ранее в сводный каталог по идеологическим причинам. Ждут учета и исследования книги, издававшиеся в Беларуси на иностранных языках, издания советского и постсоветского периода. Отдельные описания, представленные в каталоге, будут дополнены сведениями о выявленных новых экземплярах изданий, их особенностях, местах хранения. Подлежат обновлению библиографии к описаниям изданий и списки книговедческой литературы по представленной тематике. Доработанные версии сводного каталога будут своевременно издаваться по мере накопления новых сведений.

Учитывая, что библиография такого объема не может быть исчерпывающей, составители и издатели надеются получить от

заинтересованных читателей дополнительные сведения об изданиях, не вошедших в этот каталог или описанных по дефектным экземплярам.

Проект «Книга Беларуси» подготовлен в рамках программы «Память Беларуси».

Настоящее издание будет полезным и интересным исследователям истории книжной культуры Беларуси, литературоведам, сотрудникам библиотек, архивов, музеев, а также всем, кто интересуется историей и культурой Беларуси.

# СТАРАДРУКАВАНЫЯ КІРЫЛІЧНЫЯ ВЫДАННІ XVI–XVIII СТАГОДДЗЯЎ

## Прадмова

З часоў вынаходства кнігадрукавання кніга адыгрывала ўсё большую ролю ў развіцці чалавечага грамадства. Кнігадрукаванне надзяліла кнігу нябачанымі ў мінулым сацыяльнымі і культурнымі функцыямі. У ім увасобілася жывая сувязь працэсаў духоўнай творчасці з матэрыяльнай вытворчасцю, адбіліся заканамернасці грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця. Дзякуючы новай тэхналогіі вытворчасці, аднатыпнасці тэкстаў, масавасці кніга стала найважнейшым элементам духоўнага жыцця, усё больш актыўна выкарыстоўвалася для развіцця нацыянальнай культуры, навукі, міжнародных культурных сувязей.

У помніках кніжнай пісьменнасці адлюстравана шматвяковая гісторыя Беларусі, яе ўклад у еўрапейскую і сусветную культурную спадчыну. Кнігадрукаванне ўжо на пачатку свайго існавання пашырала вузкія рамкі сярэдневяковых уяўленняў аб свеце, прама ці апасродкавана знаёміла насельніцтва Беларусі з дасягненнямі еўрапейскай і сусветнай культур, у лепшых сваіх творах несла святло ведаў і ідэі асветніцтва, гуманізму і адраджэння.

Старадрукаваная кніга з’яўляецца адным з асноўных відаў пісьмовых крыніц, неабходных для даследавання грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў эпоху феадалізму, многіх сфер духоўнай і матэрыяльнай культуры, грамадскай свядомасці.

Старажытная кніга, як і іншыя помнікі айчыннай культуры, знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

Апублікаваныя за апошнія дзесяцігоддзі зводныя каталогі старадрукаваных выданняў (рускай, украінскай, літоўскай, грузінскай кнігі і інш.) – важны этап на шляху да стварэння прац больш высокага інтэгральна-еўрапейскага ўзроўню.

Гэты раздзел прапанаванага зводнага каталога прысвечаны апісанню старадрукаваных беларускіх выданняў кірылаўскага шрыфту.

Гісторыя беларускага кнігадрукавання – важная частка агульнай гісторыі беларускага народа. Кірылічнае кнігадрукаванне было вядучым відам беларускага кнігавыдання. Друкарні, якія выкарыстоўвалі кірылаўскія шрыфты, выпускалі выданні на кніжнай славянскай, а таксама беларускай літаратурнай мове, ужывалі кірылаўскі алфавіт, традыцыйна ўласцівы значнай частцы славянскай пісьменнасці.

У канцы XV – пачатку XVI ст. з тэхналогіяй і майстэрствам кнігадрукавання прама ці ўскосна сталі знаёмы ўсе краіны Еўропы (Беларусь, якая была ў гэты час у складзе Вялікага княства Літоўскага, з 1569 г. амаль да канца XVIII ст. уваходзіла ў федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую). Культурнае жыццё ў краіне было ўскладнена грамадска-палітычнымі, сацыяльнымі, канфесійнымі супярэчнасцямі. Працэс распаўсюджвання кнігадрукавання быў звязаны з выспяваннем у Беларусі і Літве яго сацыяльных перадумоў, развіццём прадукцыйных сіл і вытворчых адносін. Сацыяльная актыўнасць розных пластоў грамадства, пэўны эканамічны і культурны ўздым і пашырэнне міжнародных сувязей садзейнічалі развіццю ўсіх форм кніжнай пісьменнасці. У станаўленні беларускага кнігадрукавання галоўную ролю адыгрывалі гандлёва-прадпрыемніцкія слаі гарадскога насельніцтва, мяшчане, якія падтрымлівалі ідэі развіцця нацыянальнай культуры, школьнай справы, асветы.

Узнікненне беларускага кнігадрукавання ў 1-й чвэрці XVI ст. звязана з дзейнасцю выдатнага гуманіста, асветніка, беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны (каля 1490 г. – не пазней 1551 г.). Першы этап кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны прайшоў у «славном месте Празском». Даўнія гандлёвыя і культурныя сувязі Чэшскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага, некаторыя асаблівасці духоўнага і грамадска-палітычнага жыцця Чэхіі (уплыў гусіцкай Рэфармацыі), а таксама прывілеі, якімі карысталася тут кнігадрукаванне (не заціснутае цэхавымі абмежаваннямі), аблягчалі арганізацыю новага кнігавыдавецкага прадпрыемства ў Празе.

Як і многія еўрапейскія першадрукары, Ф. Скарына пачаў сваю выдавецкую дзейнасць з кніг Бібліі. Яго выданні яскрава вылучаліся

сваім рэнесансавым духам, гуманістычнай інтэрпрэтацыяй тэкстаў, імкненнем прыстасаваць кнігі да патрэб усіх слаёў беларускага «паспалітага» люду.

Асветніцка-гуманістычныя погляды Ф. Скарыны выразна праявіліся ў яго адносінах да свецкіх навук, кніжных ведаў, духоўных дасягненняў мінулага. У сваіх кнігах ён прапагандаваў неабходнасць шырокай гуманітарнай адукацыі, вывучэння сямі «вольных навук» (або «мастацтваў»), маральнага ўдасканалення, актыўнай асабістай і грамадскай дзейнасці «для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (Другая прадмова да кнігі «Ісус Сірахаў», 1517).

У выказваннях і каментарыях Ф. Скарыны, у яго адносінах да кнігавыдавецкай, асветніцкай і палітычнай дзейнасці выяўляюцца яго грамадзянскія патрыятычныя пачуцці, імкненне ўсімі сіламі садзейнічаць духоўнаму развіццю свайго народа. Патрыятызм Ф. Скарыны арганічна спалучаўся з глыбокай павагай да іншых народаў, іх традыцый і звычаяў, культурнай і гістарычнай спадчыны.

Вядома, што ў Пражскай друкарні Ф. Скарына выдаў 23 або 20 кніг Старога запавету (з улікам таго, што кнігі Царстваў стваралі фактычна непадзельны комплекс). Аднак дакладна вызначыць усю яго прадукцыю, выдадзеную ў Пражскай друкарні, сёння няма магчымасці з-за розных гістарычных абставін, якія паўплывалі на лёс беларускіх палеатыпаў. Зусім упэўнена можна сцвярджаць толькі, што Ф. Скарына меў намер выдаць у Празе ўвесь збор Бібліі. Пра гэта сведчаць агульны загаловачны аркуш, падрабязная прадмова да ўсёй Бібліі, каментарыі да выдадзеных кніг. Пералічваючы падрыхтаваныя да друку кнігі, Ф. Скарына называў шэраг невядомых нам, не знойдзеных кніг – «Ездры», «Тавіф» і інш. «О сих всех книгах, – пісаў Ф. Скарына, – мною на руский язык ново выложеных и о именах их, ширей в предословиах, от мене на кожный роздельне положеных, выписано знайдеши». Пад «рускай» тагачаснай мовай Скарына разумеў перш за ўсё мову сваёй Айчыны.

Няма ніякіх звестак і пра тое, хто працаваў у Пражскай друкарні Ф. Скарыны ці ў той тыпаграфіі, якая па яго замовах выдавала яго кнігі. Шрыфты, ілюстрацыйны і арнаментальны матэрыял пражскіх выданняў Ф. Скарыны не маюць прамых паралеляў з вядомымі сёння чэшскімі і іншымі інкунабуламі і палеатыпамі канца XV – першых

дзесяцігоддзяў XVI ст. Не выключана, што ў пражскай друкарні працавалі суайчыннікі Скарыны побач з чэшскімі майстрамі.

Праз некалькі год пасля пачатку сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. Скарына пераехаў у Вільню – найбуйнейшы палітычны, эканамічны і культурны цэнтр, сталіцу Вялікага княства Літоўскага. У Віленскай друкарні Ф. Скарыны, арганізаванай у доме бурмістра Якуба Бабіча, былі надрукаваны «Малая падарожная кніжыца» (каля 1522 г.) і «Апостал» (1525 г.). Абедзве кнігі выйшлі ў рэдакцыі, набліжанай да моўных і рэлігійных традыцый беларускай і ўсходнеславянскай пісьменнасці. Аднак сваім сацыяльным прызначэннем і ў пэўнай ступені зместам яны адрозніваліся ад тых даволі рэдкіх твораў рукапіснага кніжнага майстэрства, якія распаўсюджваліся пераважна ў асяроддзі прывілеяваных слаёў грамадства. «Малая падарожная кніжыца» знаёміла розныя слаі беларускага насельніцтва з важным і надзвычай папулярным у Сярэднявеччы комплексам кананічных твораў з дадаткамі (Псалтыр з васледаваннем), які актыўна выкарыстоўваўся ў канфесійнай літургічнай і пазаслужбовай практыцы, школьнай адукацыі. Дадаткі знаёмілі чытачоў і слухачоў з некаторымі творамі грэка-візантыйскай кніжнасці, праваслаўнымі святцамі і інш. Асветніцкія тэндэнцыі Ф. Скарыны знайшлі яскравае адлюстраванне ў апублікаванай ім перспектыўнай зводцы пра сонечнае і месячныя зацьменні на 1523–1530 гг. Гэта – першы ва ўсёй усходнеславянскай пісьменнасці дакладны прагноз зацьменняў, якія традыцыйна лічыліся непрадказальнымі.

У «славном месте Виленском» Ф. Скарына шырэй, чым у Празе, удзельнічаў у непасрэднай дзейнасці друкарні, што адзначана ў яго выданнях фразамі «выложено и выбито», «выложены и вытиснены працею доктора Франциска Скорины» і г. д. У віленскіх выданнях выкарыстаны новыя гравюры, абноўлена большая частка арнаменту, з асаблівым майстэрствам выкананы вузкія «заставицы», дробныя ініцыялы з разнастайным дэкаратыўна-раслінным фонам, шырока ўжыты розныя формы набору ў канцоўках, удасканалена тэхніка двухкаляровага друку. Як адзначалі У. В. Стасаў і іншыя мастацтвазнаўцы, выданні Ф. Скарыны – сталыя, дасканалыя творы, яскравыя і своеасаблівыя мастацкім і друкарскім абліччам. Яны арганічна спалучалі ў сабе традыцыі беларускага мастацтва і пісьменнасці з назапашаным багатым вопытам еўрапейскага, у тым ліку славянскага, кнігадрукавання, развіваючы і ўзбагачаючы яго.

Наватарскія мастацка-паліграфічныя рысы яго выданняў звязаны з усведамленнем мастацкай і грамадскай сутнасці друкаванай кнігі як з'явы сінтэтычнай, што патрабуе адэкватных форм выяўлення. Зручны паменшаны фармат (у чацвёртую і восьмую долю аркуша), шырокае выкарыстанне ілюстрацыйных гравюр, тытульных аркушаў, асаблівасці шрыфтоў, набору, арнаменту, каментарыі і глосы, уся ўнутраная архітэктоніка яго выданняў падпарадкаваны мэтам дэмакратызаваць і ўзвысіць кнігу, зрабіць яе эстэтычна прыгожай і ў той жа час зразумелай і даступнай «людем посполитым к пожитку».

У адрозненне ад еўрапейскіх гуманістаў эпохі Высокага Адраджэння, чые творы, як правіла, друкавалі прафесіяналы, Ф. Скарына сам ствараў рукапісы, вартыя друку, і ажыццяўляў іх выданне. Можна толькі здзіўляцца таму, на якім высокім узроўні і ў якія найкарацейшыя тэрміны былі вырашаны гэтыя задачы. Нягледзячы на адсутнасць спецыяльнай выдавецкай або рамеснай падрыхтоўкі і наладжаных шляхоў збыту, недахоп матэрыяльных сродкаў і процідзеянне кансерватыўных колаў, ён змог выдаць высокамастацкія, гарманічныя творы, якія на шмат стагоддзяў уперад прадвызначылі канчатковую перамогу друкарскага станка над рукапісным стварэннем кніг.

Друкарні, заснаваныя Ф. Скарынай у Празе і Вільні, адыгралі выдатную ролю ў сцвярджэнні прэстыжу друкаванай кнігі, у распаўсюджванні яе ў Беларусі і ў замежжы. Яны знаёмілі беларускае насельніцтва з вытворча-тэхналагічнымі асновамі кнігадрукавання, дэманстравалі высокія эстэтычныя якасці друкаванай кнігі і яе невычэрпныя духоўныя магчымасці. Выданні Ф. Скарыны, якія вызначаліся гуманістычнай, асветніцкай, дэмакратычнай накіраванасцю, сцвярджалі рэнесансавую культуру, садзейнічалі развіццю новых моўных працэсаў у беларускай літаратуры і пісьменнасці, фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці, пашырэнню культурных сувязей.

Пераемнікамі Ф. Скарыны ў беларускім кірылічным кнігадрукаванні былі нясвіжскія кнігавыдаўцы Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі. Духоўным кіраўніком Нясвіжскай друкарні ў пачатку 1560-х гг. быў Сымон Будны – буйны дзеяч рэфармацыйнага руху ў ВКЛ, гуманіст-асветнік, заснавальнік рацыяналістычных і філалагічных метадаў перакладу і тлумачэння кніг Святога Пісання.

Друкарня выпусціла некалькі кірылічных выданняў, з якіх да нашых часоў дайшоў толькі «Катэхізіс». Вырашальная роля С. Буднага ў падрыхтоўцы гэтага выдання падкрэслена ў аўтарскай прадмове, напісанай у Клецку 10 чэрвеня 1562 г. Нягледзячы на знешне традыцыйны змест кнігі, яна выходзіла далёка за рамкі звычайных аналагічных выданняў. Упершыню ў гісторыі беларускай пісьменнасці быў выдадзены твор, прызначаны перш за ўсё для дзяцей «мовы рускай» (у больш шырокім плане – для ўсяго беларускамоўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага). Ён працягваў і развіваў асветніцкія і дэмакратычныя традыцыі Ф. Скарыны. Акрамя таго, гэта было першае выданне на беларускай мове на сучаснай тэрыторыі Беларусі.

У кнізе побач з пачатковымі царкоўна-рэлігійнымі звесткамі закраналіся актуальныя для таго часу сацыяльныя і канфесійныя праблемы, выкладаліся пэўныя пастулаты пратэстанцкай канфесіі.

Другое кірылічнае выданне Нясвіжскай друкарні – «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» – да нас не дайшло. Паводле сцвярджэння старца Арцемія, у гэтай кнізе, дасланай яму С. Будным, асабліва адчуваліся рысы антытрынітарскай ерасі. У ёй знайшлі далейшае развіццё рэфармацыйна-рацыяналістычныя погляды.

Сучаснікам і паплечнікам С. Буднага быў дробны беларускі шляхціч Васіль Амельяновіч Цяпінскі. З вялікай цяжкасцю яму ўдалося арганізаваць друкарню, на думку многіх даследчыкаў, на Полаччыне ў радавым маёнтку Цяпіна. Васіль Цяпінскі ўтрымліваў друкарню на свае сродкі, таму мог больш адкрыта выказваць свае погляды, вызначаць кірункі выдавецкай дзейнасці.

Друкарня В. Цяпінскага выпусціла «Евангелле», надрукаванае паралельна на дзвюх мовах – царкоўна-славянскай і беларускай, са шматлікімі вельмі цікавымі глосамі. Па філігранях і іншых адзнаках можна меркаваць, што кніга выдадзена ў 1570-я гг.

Найбольш адметная ў выданні прадмова В. Цяпінскага, вядомая толькі ў рукапісным выглядзе. У беларускай літаратуры і пісьменнасці таго часу гэта найбольш яскравае страснае выступленне ў абарону айчыннай культуры, беларускай і славянскай моў, супраць паланізатарскіх тэндэнцый, што абмяжоўвалі магчымасці духоўнага развіцця беларускага народа. Гонар і развітая нацыянальная самасвядомасць адчуваюцца ў словах В. Цяпінскага, калі ён гаворыць

пра славутае гістарычнае мінулае «отчизны нашее», заклікае развіваць спадчыну роднай культуры як састаўной часткі культуры ўсіх славянскіх народаў «яко многокрот посторонние оучоные народы их мудрость моусели похвалять и овшем се от них оучить».

У 2-й палове XVI ст. у развіцці беларускага кнігадрукавання актыўна ўдзельнічалі рускі першадрукар Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. Асталяваўшыся ў мястэчку Заблудаў, яны выпусцілі ў 1569 г. «Евангелле вучыцельнае» – зборнік павучанняў і тлумачэнняў евангельскіх тэкстаў, куды былі ўключаны розныя творы візантыйскай, балгарскай, старажытнарускай пісьменнасці, у тым ліку «Слова на ўшэсце» Кірылы Тураўскага. У 1570 г. І. Фёдараў выпусціў «Псалтыр з Часаслоўцам», які шырока выкарыстоўваўся ў тыя часы таксама для навучання пачатковай грамаце. У Заблудаўскай друкарні, магчыма, працаваў вучань І. Фёдарава, мясцовы ўраджэнец Грынь Івановіч, потым вядомы майстар па вырабу шрыфтоў.

Выдавецкая дзейнасць І. Фёдарава і П. Мсціслаўца ў Заблудаве зрабіла значны ўплыў на далейшы лёс беларускага і станаўленне ўкраінскага кнігадрукавання, адначасова яны многае перанялі з вопыту кніжнага майстэрства і друкарскай справы на Беларусі. У выданнях Заблудаўскай друкарні шырока ўжываліся новая арнаментыка, буйныя фігурныя ксілаграфіі, з’явіўся тытульны ліст з выхаднымі звесткамі. Заблудаўскія выданні амаль у тоесным выглядзе неаднаразова перавыдаваліся ў віленскіх друкарнях брацтва, Васіля Міхайлавіча Гарабурды, братоў Мамонічаў. У сувязі з грамадска-палітычнымі ўмовамі, якія ўскладніліся пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, а таксама хваробай пратэктара друкарні Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча ў пачатку 1570-х гг. Заблудаўская друкарня спыніла сваю дзейнасць. І. Фёдараў пераехаў на Украіну, дзе арганізаваў друкарні ў Львове і Астрозе. П. Мсціславец з 1569 г. асталяваўся ў Вільні, куды быў запрошаны заможнымі беларускімі купцамі Мамонічамі для развіцця кірылічнага кнігавыдання.

Друкарня П. Мсціслаўца ў Вільні адрадзіла кірылічнае кнігадрукаванне праз паўстагоддзя пасля спынення выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны. У ёй выпускаліся манументальныя прыгожа афармленыя выданні, адметныя вонкавым выглядам і высокай культурай друку: шырокімі палямі, выразным паўустаўным шрыфтам, багатым ужываннем кінавары, іншымі кідкімі элементамі мастацка-паліграфічнага афармлення. У выданнях П. Мсціслаўца

выдатна, хоць і ў трохі ўскладненай манеры, выкананы ўсе фігурныя гравюры, буйныя дэкаратыўныя застаўкі старадрукаванага стылю.

У выніку намаганняў Мамонічаў, якія абмяжоўвалі самастойную дзейнасць кнігавыдаўца і імкнуліся перш за ўсё да камерцыйнай выгады, П. Мсціславец у 1577 г. быў вымушаны пакінуць друкарню. Сляды яго выдавецкай дзейнасці назіраюцца пазней у Астрозе.

Дзейнасцю Пятра Мсціслаўца і другога віленскага друкара Васіля Міхайлавіча Гарабурды (1580-я гг.) заканчваецца перыяд існавання прыватных беларускіх кірылічных друкарняў, заснаваных намаганнямі аднаго, у лепшым выпадку некалькіх універсалаў-друкароў, без арганізаванай падтрымкі шырокіх колаў беларускай грамадскасці. Выключэнне складае прывілеяваная друкарня Мамонічаў, якая атрымала магчымасць працягваць сваю дзейнасць дзякуючы кампрамісу выдаўцоў з урадам і уніяцкай царквою.

Друкарня Мамонічаў выпусціла першыя ў беларускім кнігадрукаванні кірылічныя выданні прававога характару: «Трыбунал» (1586 г.) і «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1-е выд. – 1588 г.). У сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці Мамонічы ўлічвалі патрэбы і культурныя традыцыі розных слаёў насельніцтва, ахвотна ішлі на ўкараненне друкарскіх наваўвядзенняў (напрыклад, курсіўнага шрыфту, які перадае графіку канцылярскага пісьма). Выданні, прызначаныя на продаж у Маскве, афармляліся інакш, чым тыя, што паступалі на ўнутраны рынак. Друкарня праіснавала да пачатку 1620-х гг., выпусціла звыш 50-ці кірылічных выданняў і больш за 35 польскіх лацінскім шрыфтам.

У адрозненне ад Расіі, дзе кірылічныя выданні ўяўлялі сабой ідэалагічна цэласны кірунак (да паяўлення раскольніцкіх), у Беларусі, Літве, на Украіне яны не былі так уніфікаваны, цэнтралізаваны і пераважна не карысталіся дзяржаўнай падтрымкай. Розныя друкарні, якія ўжывалі кірылаўскі шрыфт (г. зн. выпускалі прадукцыю, разлічаную галоўным чынам на беларуска-ўкраінскае насельніцтва), прытрымліваліся рознай канфесіянальнай (у пэўнай меры таксама сацыяльна-палітычнай і культурнай) арыентацыі. Найважнейшым кірункам у беларускім кірылічным кнігадрукаванні з канца XVI ст. становіцца брацкае кнігадрукаванне, што ўзнікла пад апекай шырокасаслоўных грамадскіх арганізацый беларускага насельніцтва (брацтваў), дзе сацыяльную аснову складала мяшчанства.

Брацкія кнігавыдавецтвы адыгралі вялікую ролю ў развіцці розных сфер беларускай культуры, мовы, пісьменнасці. Выданні брацкіх друкарняў (творы Стафана і Лаўрэнція Зізаніяў, Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага і інш.) выкарыстоўваліся ў ідэалагічнай і палітычнай барацьбе, у палеміцы з прадстаўнікамі каталіцкім і уніяцкім напрамкамі. Брацкія і звязаныя з імі кірылічныя друкарні (Віленская, Еўінская, Куцеінская, Магілёўская) садзейнічалі фарміраванню мастацкіх цэнтраў, адметных значнай своеасаблівасцю кнігавыдавецкага майстэрства. Мастакі і гравёры, якія супрацоўнічалі з брацтвамі, часта выконвалі і іншыя віды работ (жывапіс, складаная разьба па дрэве, метале і інш.), што садзейнічала ўзаемаўзбагачэнню і развіццю розных галін «артыстычнага» рамяства і мастацтва. У дзейнасці брацкіх друкарняў выразна адлюстраваліся эвалюцыя беларускага кірылічнага кнігадрукавання, пераемнасць традыцый выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, І. Фёдарава, П. Мсціслаўца. У Віленскай і Еўінскай брацкіх друкарнях яшчэ ў 1-й палове XVII ст. выкарыстоўваліся (побач з іншымі) сапраўдныя дошкі Ф. Скарыны, яго віленскія застаўкі і значная частка ксілаграфічных ініцыялаў.

Асаблівай разнастайнасцю тэматыкі і мастацка-паліграфічнага афармлення выданняў вылучаецца першы перыяд у дзейнасці брацкіх друкарняў – да 1654 г. З 127-мі захаваных выданняў гэтага часу (уключаючы выданні, надрукаваныя пры падтрымцы брацтваў у Куцейне, Буйнічах, Мінску) 16 належаць да вучэбных (пераважна буквары і граматыкі), 12 – да палемічных і гісторыка-публіцыстычных, 16 – да панегірыкаў і «казанняў», 20 уяўляюць сабой так званыя «чэцці» і іншыя нелітургічныя выданні. Нямала выданняў прызначаліся для літургічных мэт.

Звыш 70% усіх кніг гэтага перыяду выйшла на славянскай і беларускай мовах (або славянскай у беларускай рэдакцыі), 25 выданняў – на польскай. Непасрэдна на тэрыторыі Беларусі брацкія друкарні не выпускалі кніг на польскай (тым больш на лацінскай) мове.

У канкрэтна-гістарычных умовах Беларусі мова і рэлігія былі істотнымі фактарамі, што ўплывалі на этнічную і духоўную агульнасць беларускага народа, а таксама на яго культурныя сувязі.

У выніку пагаршэння ўнутраных і знешнепалітычных умоў у 2-й чвэрці XVII ст. назіраецца перамяшчэнне галоўных цэнтраў

кірылічнага кнігадрукавання з заходніх абласцей Вялікага княства Літоўскага ва ўсходнія – у Магілёў і Куцейна (каля Оршы). Адноснае пашырэнне атрымалі перасоўныя прыватныя друкарні, фактычна цесна звязаныя з брацтвамі. Актыўна дзейнічала найбольш вядомая з іх друкарня магілёўскага ўраджэнца Спірыдона Собаля. У 1620-я гг. ён заснаваў друкарню ў Кіеве, потым перавёз яе ў Беларусь, у 1637 г. прывёз вядомаму маскоўскаму друкару Васілю Бурцаву матрыцы для адліўкі шрыфтоў і іншыя друкарскія матэрыялы. У час ваенных падзей 1654–1667 гг. у Расію была дастаўлена Куцеінская друкарня. У 1676 г. яе маёмасць перададзена на Друкарскі двор у Маскве.

З 2-й паловы XVII ст. у беларускім кірылічным кнігадрукаванні настала паласа зацяжнога крызісу, абумоўленага агульным сацыяльна-эканамічным і палітычным крызісам Рэчы Паспалітай. У тэматыцы друкаваных кніг павялічылася ўдзельная вага літургічных выданняў. У гэты час практычна дзейнічала толькі адна брацкая друкарня ў Магілёве. Нягледзячы на зробленыя ў канцы XVII – пачатку XVIII ст. спробы палепшыць вонкавы выгляд выданняў (глыбокі друк з металагравюр), прылучэнне таленавітых гравёраў (Максім і Васіль Вашчанкі, Фёдар Ангілейка і інш.), мастацка-паліграфічнае афармленне выданняў у цэлым пагаршалася.

Адноснае развіццё ў гэты час атрымала уніяцкае кірылічнае кнігадрукаванне, цэнтр якога ў канцы XVII ст. перамясціўся з Вільні ў Супрасль. З 1-й чвэрці XVIII ст. Супрасльская друкарня мела манапольнае права на выданне літургічнай уніяцкай літаратуры новай царкоўнай рэдакцыі, што стварыла ёй спрыяльныя ўмовы, дазволіла пашырыць друкарню і выпускаць выданні вялікімі для таго часу тыражамі. Новы свецкі змест і змены вонкавага выгляду кнігі характарызуюць польскія і лацінскія выданні друкарні ў 2-й палове XVIII ст.

У XVIII ст. Магілёўская брацкая, Гродзенская каралеўская, Супрасльская і Віленская Троіцкая друкарні выпусцілі шэраг выданняў для раскольнікаў. На Беларусі іх пасяленні з’явіліся ў 2-й палове XVII ст., і стараверская абшчына зрабіла спробы наладзіць у беларускіх друкарнях выпуск раскольніцкай літаратуры паводле ўзораў рускіх «даніканаўскіх» выданняў. Стараверскія кнігі, многія з недакладнымі ці фіктыўнымі выхаднымі звесткамі, распаўсюджваліся таксама ў Расіі і на Украіне. На думку сучасных даследчыкаў, гэта –

значная з’ява ў гісторыі беларускай «нізавой» дэмакратычнай літаратуры XVIII ст.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай кнігадрукаванне і выдавецкая справа ў Беларусі становяцца часткай агульнага гісторыка-культурнага працэсу, які развіваўся ў Расійскай імперыі.

У XVI–XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі і Літвы акрамя кірылічных кніг, прызначаных для беларускага і ўкраінскага насельніцтва (гл. табліцу), публікаваліся таксама выданні на польскай, лацінскай і некаторых іншых мовах. Гэтыя выданні выпускаліся галоўным чынам рэфармацыйнымі друкарнямі (Брэст, Нясвіж, Лоск, Любча), каталіцкімі і уніяцкімі выдавецтвамі. Польскія выданні (пераважна палемічную літаратуру і панегірыкі) у 1-й палове XVII ст. выпускала Віленскае брацтва. Іншамоўныя выданні, якія адыгрывалі пэўную ролю ў грамадска-палітычным і духоўным жыцці Беларусі і Літвы, таксама складаюць аб’ект гістарычных і кнігазнаўчых даследаванняў. Яны не ўключаны ў дадзены каталог, таму што значную іх частку складаюць надзвычай рэдкія выданні, якія знаходзяцца ў замежных бібліятэках і не маюць задавальняючых бібліяграфічных апісанняў. Гэту задачу яшчэ давядзецца рашыць даследчыкам.

## Старадрукаваныя выданні XVI–XVIII стст.

| п/п | Друкарня, выдавец або друкар | Месца | Час дзейнасці друкарні (па выхадных звестках апісаных выданняў) | Колькасць выданняў |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Францыск Скарына | Прага,<br>Вільня | 1517–1519,<br>каля 1522–1525 | 1 (23)<br>2 (22) |
| 2. | Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі | Нясвіж | 1562 | 2 |
| 3. | Васіль Цяпінскі | Цяпіна (?) | 1570-я гг. | 1 |
| 4. | Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец | Заблудаў | 1569 | 1 |
| 5. | Іван Фёдараў | Заблудаў | 1570 | 1 |
| 6. | Пётр Мсціславец у доме Мамонічаў | Вільня | 1575–1576 | 3 |
| 7. | Васіль Гарабурда | Вільня | каля 1580–1582 | 2 |
| 8. | Кузьма, Лукаш і Лявон Мамонічы | Вільня | 1583–1621 | 51 |
| 9. | Брацкая | Вільня<br>Еўе } | 1595–1652,<br>1693–1697, 1705 | 74 |
| 10. | Дамжыў Лютковіч | Мінск (?) | 1622 | 1 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11. | Троіцкая | Вільня | 1628–1691–1767–1800 | 48* |
| 12. | Спірыдон Собаль | Куцейна, Буйнічы, Магілёў | 1631 – канец 1630-х гг. | 13 |
| 13. | Іаіль Труцэвіч | Куцейна | 1636–1654 | 14 |
| 14. | Брацкая | Магілёў | пачатак 1640-х –1649, канец XVII – канец XVIII ст. | 16 |
| 15. | Максім Вашчанка | Магілёў | 1693 – каля 1707 | 16** |
| 16. | Без указання друкарні | Магілёў | пачатак XVIII ст. – 1761 | 9 |
| 17. | Супрасльская | Супрасль | 1690-я гады – канец XVIII ст. | 99 |
| 18. | Акадэмічная | Вільня | 1779, 1791 | 2 |
| 19. | Гродзенская (каралеўская) | Гродна | 1781–1795 | 29 |
| | Усяго: | | | 384 |

* Уключаючы віленскія выданні, якія выйшлі без указання друкарні ў апошняй трэці XVIII ст. і большасць якіх надрукавана ў Троіцкай друкарні.

** Уключаючы выданні, надрукаваныя Максімам Вашчанкам у друкарні Магілёўскага брацтва.

Выданні ў дадзеным каталогу апісаны (за рэдкімі выключэннямі) візуальна на аснове пераважна тых расійскіх і беларускіх бібліятэчных збораў, дзе па розных гістарычных прычынах найбольш поўна прадстаўлены беларускія старадрукаваныя кнігі. Выданні, якія былі нам недаступны ў час складання каталага, апісаны паводле фотарэпрадукцыйных матэрыялаў.

Пры складанні зводнага пераліку беларускай кірылічнай кнігі ўлічаны толькі захаваныя экзэмпляры выданняў (выключэнне – кніга «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», выпушчаная С. Будным у Нясвіжы ў 1562 г., і некалькі іншых выданняў, агавораных у каталогу). Літаратурныя звесткі пра старадрукаваныя кнігі, якія да нас не дайшлі, у большасці выпадкаў маюць вельмі прыблізны характар і не адпавядаюць патрабаванням сучаснага бібліяграфічнага апісання. Многія з апісаных падобным чынам выданняў (напрыклад, кірылічнае выданне «Фрыноса» М. Сматрыцкага) на самай справе не існавалі, некаторыя выдадзены ў іншых друкарнях або ў іншыя гады.

У каталог уключаны старадрукаваныя кірылічныя кнігі, якія выйшлі з друкарняў, што дзейнічалі ў пэўны перыяд на тэрыторыі Беларусі (Нясвіж, Цяпіна, Куцейна, Магілёў, Гродна, перасоўныя друкарні Спірыдона Собаля і Дамжыва Лютковіча) і ў Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Акрамя гэтага, апісаны кірылічныя

выданні Заблудаўскай (друкары І. Фёдараў і П. Мсціславец) і Супрасльскай друкарняў, якія размяшчаліся на тэрыторыі, што ўваходзіць цяпер у Падляскае ваяводства Польшчы. У каталог уключаны таксама выданні Пражскай друкарні Ф. Скарыны, якія далі пачатак беларускаму і ўсходнеславянскаму кнігадрукаванню. Асноўная прадукцыя гэтых варстатаў была прызначана для беларускага насельніцтва. Выдавецкая дзейнасць беларускіх друкароў, якія працавалі ў XVI–XVII стст. за межамі Беларусі дастаткова поўна ўлічана ў каталогах старадрукаваных кірылічных выданняў, што выйшлі ў Расіі і на Украіне.[1]

Апісанне складаецца з наступных частак: I. Бібліяграфічная характарыстыка; II. Месца захавання (паказальнік бібліятэк, архіўных збораў, музеяў); III. Бібліяграфічныя спасылкі.

I. Найбольш разгорнутым раздзелам апісання з'яўляецца бібліяграфічная характарыстыка. У цэлым яна адпавядае агульнапрынятай на сучасным этапе методыцы апісання старадрукаваных кірылічных выданняў. Некаторыя асаблівасці абумоўлены пераважна мэтавым прызначэннем каталога. У параўнанні з большасцю апублікаваных раней каталогаў унесены наступныя дапаўненні: паказваецца фармат паласы набору (без вынасных элементаў і надрадковых знакаў), размяшчэнне гравюр у выданні; апісваецца змест кнігі з паказам пагінацыі (раздзелаў або частак). Спрошчана некалькі элементаў апісання, якія выклікаюць пэўныя цяжкасці пры ідэнтыфікацыі дэфектных экзэмпляраў у невялікіх кніжных зборах: знята сшыткавая частка формулы (за выключэннем асабліва рэдкіх выданняў, у якіх адсутнічае пагінацыя) і не паказваецца колькасць дошак арнаменту. Такім чынам, бібліяграфічная характарыстыка выданняў уключае 8 частак: 1. Імя і прозвішча аўтара (у транскрыпцыі, прынятай у кніжнай славянскай і ўсходнеславянскай пісьменнасці), уніфікаваная назва кнігі. 2. Месца выдання, друкарня, год выхаду. Калі паказаная ў выданні дата яўна не адпавядае сапраўднасці, яна бярэцца ў двукоссе; выхадныя звесткі (дата, месца выдання, друкарня), вызначаныя ўскосным чынам

---

[1] Зернова А. С. Книги кирилловской печати, изданные в Москве в XVI–XVII вв.: Сводный каталог. – М., 1958; Петров С. О., Бирюк Я. Д., Золотарь Т. П. Славянские книги кирилловской печати в Государственной публичной библиотеке УССР. – Киев, 1958; Украинские книги кирилловской печати XVI–XVIII вв.: Каталог изданий, хранящихся в Государственной библиотеке СССР им. В. И. Ленина, В. 1 /Сост. Т. Н. Каменева, А. А. Гусева. – М., 1976.

(паводле бібліяграфічных крыніц, мастацка-паліграфічных асаблівасцей, пасхаліі), паказваюцца ў дужках. 3. Назва кнігі паводле тытульнага аркуша. Пры адсутнасці тытульнага аркуша, што часта здаралася ў выданнях Мамонічаў, прызначаных для распаўсюджвання ў Рускай дзяржаве, і ў раскольніцкіх кнігах, даюцца выхадныя звесткі, калі яны ёсць у пасляслоўі. Значная частка стараверскіх выданняў мае больш раннія даты ў параўнанні з сапраўдным часам выхаду, а асобныя выданні, магчыма, нават надрукаваны ў іншых друкарнях. Паколькі даследаванні стараверскіх выданняў у поўным аб'ёме ў бібліяграфіі не зроблены і ўлічваючы патрэбы практычнага выкарыстання каталога, большасць апісанняў гэтых выданняў размешчана адпаведна фармальным выхадным звесткам. Даты, надрукаваныя ў кірылічных беларускіх выданнях паводле візантыйскай сістэмы летазлічэння, дадзены ў апісанні ў сучаснай сістэме летазлічэння (паводле грыгарыянскага календара). 4. Фармат выдання паказваецца ў долях друкаванага аркуша: 2° (фоліо), 4° (кварта), 8° (актава) і г. д. 5. Фармат паласы набору вымяраецца ў міліметрах (вышыня – шырыня), далей паказваецца колькасць радкоў на старонцы (без уліку калонтытулаў і кустод) і памер шрыфту па вышыні дзесяці радкоў (гэтыя звесткі прыводзяцца паводле аднаго з пашыраных варыянтаў, што ёсць у выданні). 6. Адзначаюцца наяўнасць сігнатур і кустод, асаблівасці пракату (у адну ці дзве фарбы), размяшчэнне пагінацыі, колькасць аркушаў або старонак (памылкі, зробленыя ў пагінацыі, ненумараваныя або дадатковыя чыстыя аркушы ў агульную колькасць аркушаў не ўваходзяць і ў апісанні не ўлічваюцца). 7. Склад выдання паводле зместу з паказам пагінацыі. 8. Арнамент, ініцыялы і застаўкі апісваюцца выбарачна; вялікія гравюры ўлічваюцца па магчымасці поўнасцю; фіксуюцца тып гравюры (ксілаграфія ці гравюра па медзі), памер, размяшчэнне яе ў кнізе, коратка вызначаецца сюжэт, адзначаюцца подпісы гравёраў, ініцыялы, даты.

II. Спасылкі на месцы захавання прыводзяцца выбарачна, з мэтай пацвярджэння сапраўднага існавання кнігі. Месца захавання апісанага ў каталогу экзэмпляра (без паказу варыянтаў выдання і асаблівасцей іншых экземпляраў) стаіць першым у спасылках; пры гэтым адзначаецца бібліятэчны шыфр або інвентарны нумар кнігі.

III. У бібліяграфічных спасылках скарочана паказаны асноўныя каталогі і апісанні старадрукаваных кніг, а таксама кнігазнаўчыя

даследаванні ў храналагічным парадку: прозвішча аўтара або складальніка, год публікацыі, парадкавы нумар выдання ці старонка ў адзначанай працы. Спіс выкарыстанай літаратуры і скарачэнняў прыведзены ў канцы каталога.

Апісанні размешчаны ў храналагічным парадку выхаду выданняў. Апісанні некалькіх выданняў, якія выйшлі ў адзін год, даюцца ў алфавітным парадку уніфікаваных назваў. Выданні, датаваныя прыблізна, у шырокім храналагічным дыяпазоне (напрыклад, Статут Великого княжества Литовского, Вильно, тип. Мамоничей, 1588, 2-е изд., ок. 1592–1593 гг.), апісваюцца паводле больш позняй даты. Такім жа чынам выданні, якія выйшлі ў пэўныя дзесяцігоддзі (напрыклад, у 1620-я, 1650-я, 1680-я гг. і г. д.), апісваюцца пасля выданняў, што маюць больш дакладную дату выхаду.

У дадатку прыведзены кароткія звесткі аб кірылічных выданнях, надрукаваных на Беларусі грамадзянскім шрыфтам у XVIII ст.

Астатнія асаблівасці каталога не патрабуюць спецыяльных тлумачэнняў. Гэты раздзел каталога забяспечаны чатырма дапаможнымі паказальнікамі: імянным (акрамя аўтараў бібліяграфічных і кнігазнаўчых работ); назваў; выданняў паводле месца і часу выхаду, друкарняў, друкароў; геаграфічным.

*Г. Я. Галенчанка*

# СТАРОПЕЧАТНЫЕ КИРИЛЛИЧЕСКИЕ ИЗДАНИЯ XVI–XVIII ВЕКОВ

## Предисловие

Со времени изобретения книгопечатания книга играет все большую роль в развитии человеческого общества. Книгопечатание наделило книгу невиданными в прошлом социальными и культурными функциями. В нём воплотилась живая связь процессов духовного творчества с материальным производством, отразились закономерности общественно-политического, социально-экономического и культурного развития. Благодаря новой технологии производства, однотипности текстов, массовости книга стала важнейшим элементом духовной жизни, всё более активно использовалась для развития национальной культуры, науки, международных культурных связей.

В памятниках книжной письменности запечатлена многовековая история Беларуси, ее вклад в европейское и мировое культурное наследие. Книгопечатание уже на заре своего существования раздвигало узкие рамки средневековых представлений о мире, прямо или опосредованно знакомило население Беларуси с достижениями европейской и мировой культуры, в лучших своих произведениях несло свет знаний и идеи просвещения, гуманизма и возрождения.

Старопечатная книга является одним из основных видов письменных источников, необходимых для исследования общественно-политической жизни Беларуси в эпоху феодализма, многих сфер духовной и материальной культуры, общественного сознания.

Древняя книга, как и другие памятники отечественной культуры и письменности, находится под охраной государства.

Опубликованные за последние десятилетия сводные каталоги старопечатных изданий (русской, украинской, литовской, грузинской книги и др.) – важный этап на пути к созданию работ более высокого интегрально-европейского уровня.

Данный раздел предлагаемого сводного каталога посвящен описанию старопечатных белорусских изданий кирилловского шрифта.

История белорусского книгопечатания – важная часть общей истории белорусского народа. Кириллическое книгопечатание было ведущим видом белорусского книгоиздания. Типографии, использовавшие кирилловские шрифты, выпускали издания на книжном славянском, а также белорусском литературном языке, применяли кирилловский алфавит, традиционно присущий значительной части славянской письменности.

В конце XV – начале XVI в. с технологией и искусством книгопечатания прямо или косвенно стали знакомы все страны Европы (Беларусь, находившаяся в это время в составе Великого княжества Литовского, с 1569 г. почти до конца XVIII в. входила в федеративное государство – Речь Посполитую). Культурная жизнь в стране была осложнена общественно-политическими, социальными, конфессиональными противоречиями. Процесс распространения книгопечатания был связан с вызреванием в Беларуси и Литве его социальных предпосылок, развитием производительных сил и производственных отношений. Социальная активность различных слоев общества, определённый экономический и культурный подъём и расширение международных связей способствовали развитию всех форм книжной письменности. В становлении белорусского книгопечатания основную роль играли торгово-предпринимательские слои городского населения, мещане, поддерживавшие идеи развития национальной культуры, школьного дела, просвещения.

Возникновение белорусского книгопечатания в 1-й четверти XVI в. связано с деятельностью выдающегося гуманиста, просветителя, белорусского и восточнославянского первопечатника Франциска Скорины (около 1490 г. – не позднее 1551 г.). Первый этап книгоиздательской деятельности Ф. Скорины прошёл в «славном месте Празском». Давние торговые и культурные связи Чешского королевства и Великого княжества Литовского, некоторые особенности духовной и общественно-политической жизни Чехии (влияние гуситской Реформации), а также привилегии, которыми пользовалось здесь книгопечатание (не стесняемое цеховыми ограничениями), облегчали организацию нового книгоиздательского предприятия в Праге.

Кн. 16–18
22017070; 22011072; 23211075; 19017073
1914. Кн. 19
22017070; 23211075; 19017073
Кн. 20
22017070; 22011072; 23211075; 19017073
Кн. 21
22017070; 19017073
Кн. 22
22017070; 23211075; 19017073
Кн. 23
22017070; 22011072; 23211075; 19017073
Кн. 24/25 арыштавана
Кн. 26 канфіскавана
1915. Кн. 27
22017070; 22011072; 23211075; 19017073

446. **Свабода.** Орган Беларускай рэвалюцыйнай грамады. [Падпольная газета, выд. ў 1903 г. ў в. Лябёдцы Лідскага павета

«У снежні 1902 года паводле старога стылю тут, у Лябёдцы Лідскага павета студэнтамі-беларусамі быў адбіты тыраж першага і апошняга нумара газеты (часопіса) «Свабода». 200 экземпляраў на васьмі старонках канцылярскага фармату... Надрукавана газета была на гектографе... Да апошняга часу існавала некалькі версій адносна часу выдання газеты. Як цяпер стала вядома, «Свабода» была надрукавана ў канцы 1902 года. У паліцэйскай жа справе яна была пазначана 1903 годам. Магчыма, што на першым нумары газеты быў назначены гэты год.

...Гаворачы пра змест газеты, зазначым, што ў ёй быў адзін артыкул на палітычную тэму і адзін – аб адрозненні беларускага народа ад другіх народаў... У газеце былі надрукаваны два вершы. Першы – «Мужыцкая доля» Алаізы Пашкевіч... Другім вершам былі «Добрыя весці» Уладзіслава Сыракомлі» (А с т р а ў ц о ў С. Кароткі век выдання.– «Літаратура і мастацтва», 1984, 31 жн.).

447. **Swietač.** Biełaruskaja štotydniowaja hazeta. Red.-wyd. adw[akat] A. Budźko. *№№ 1 (1/XI) – 7 (31/XII). Ph.*, Русско-французская тип., 1916.

Выйшла 7 нумароў. Газета ўздымала пераважна пытанні сялянскага побыту, многія матэрыялы мелі клерыкальную афарбоўку. Друкаваліся творы А. Зязюлі, А. Паўловіча і інш.

1916. № 1
23211075; 10017011
№№ 2–3
10017011

№ 4
23211075; 10017011
№ № 5–6
10017011
№ 7
23217073

448. **Чэмер.** Рукапісны часопіс. Гумарыстычны. Вільня, 1910.

Часопіс выходзіў адзін раз у тыдзень. Выданне рукапіснае з каляровымі малюнкамі і вершамі гумарыстычнага характару. Месца выдання і рэд.-выд. не паказаны. Першы нумар быў напісаны кірыліцай.

1910. № 1. 16 с.

# ВЫДАННІ НА РУСКАЙ МОВЕ XIX – ПАЧАТАК XX СТАГОДДЗЯ

## Прадмова

Раздзел зводнага каталога «XIX – пачатак XX ст. Выданні на рускай мове» ўключае кнігі на рускай мове, выпушчаныя на тэрыторыі Беларусі ў дарэвалюцыйны час. Гэты каталог дае магчымасць увесці ў навуковы ўжытак кніжныя каштоўнасці мінулага, узбагачае крыніцазнаўчую базу, адкрывае новую старонку ў гісторыі культурных сувязей беларускага і братняга рускага народаў, паколькі ў кнігавыданні яны знаходзілі найбольш абагульненае адлюстраванне.

З'яўляючыся прадукцыяй беларускага кнігадрукавання і, значыць, прыналежнасцю беларускай культуры, кніга на рускай мове, як і на беларускай, – каштоўная крыніца для вывучэння шэрагу важных праблем гісторыі развіцця грамадскай і навуковай думкі Беларусі. Мясцовыя выданні, якога б яны ні былі кірунку, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння краіны і асобных яе раёнаў у пэўныя перыяды гісторыі. Такія кнігі, як штогадовыя агляды губерняў, справаздачы губернскіх земскіх упраў, каштарысы і выдаткі губернскіх земстваў, справаздачы пра стан і дзейнасць губернскіх статыстычных камітэтаў, спісы населеных месцаў, звесткі пра пасяўныя плошчы і ўраджаі за розны час і іншыя афіцыйныя выданні, даюць даследчыку багаты канкрэтны матэрыял. Кнігі краязнаўчага характару маюць вялікае значэнне для вывучэння прыроды, эканомікі, культуры і гісторыі Беларусі.

Беларуская кніга, у тым ліку на рускай мове, прайшла складаны шлях развіцця. У гісторыі кнігавыдання XIX – пачатку XX ст. правамерна вылучыць 2 перыяды: дарэформенны (1801–60 гг.) і парэформенны (1861–1917 гг.).

Своеасаблівасць першага перыяду заключаецца ў тым, што на ўсім яго працягу ў кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі пераважалі кнігі на польскай і лацінскай мовах. Руска- і беларускамоўныя выданні складалі нязначную колькасць (адпаведна 32 і 4). У цэлым жа для гэтага перыяду

характэрна актывізацыя кнігадрукавання наогул і свецкага ў прыватнасці, а таксама пранікненне ў друкарскую і кнігавыдавецкую справу прыватнага прадпрыймальніцтва.

Уз’яднанне Беларусі з Расіяй у канцы XVIII ст. спрыяла развіццю яе эканомікі, росту гарадоў, унутранага і знешняга гандлю. Яно было вялікім прагрэсіўным актам для беларускага народа яшчэ і таму, што садзейнічала ўключэнню яго не толькі ў эканамічнае, але і ў грамадска-палітычнае жыццё Расіі. Уз’яднанне стварыла рэальныя магчымасці для ўздыму духоўнага жыцця беларускага народа, далучэння яго да багацейшай рускай культуры, да вывучэння рускай мовы, якая стала найважнейшым сродкам зносін двух братніх народаў.

У ліку паліятыўных рэформ, праведзеных царскімі ўладамі ў пачатку XIX ст., была рэформа друку і кнігавыдавецкай справы. Сведчаннем пэўнай лібералізацыі ў першыя гады чаравання Аляксандра I сталі скасаванне ўказа 1796 г. аб закрыцці вольных, г. зн. прыватных, друкарань, зняцце забароны (сакавік 1801 г.) на ўвоз кніг з-за мяжы, выданне ўказа 1802 г., што вызваліў літаратуру ад нагляду ўпраў дабрачыннасці і перадаў функцыі цэнзуры Галоўнаму кіраўніцтву вучылішчаў, а ў навучальных акругах – Цэнзурным камітэтам універсітэтаў. Перадача цэнзурных функцый ад малапісьменных паліцэйскіх чыноўнікаў, у распараджэнні якіх была цэнзура ў 1783–96 і 1801–02 гг., супрацоўнікам навучальнага ведамства, г. зн. людзям адукаваным і кампетэнтным, была спрыяльным фактарам для развіцця кнігавыдання. Адноснай мяккасцю вызначаўся і першы Цэнзурны статут 1804 г., што ўзаконіў і ўпарадкаваў папярэднюю цэнзуру.

Аднак наступнымі пастановамі ўрад Аляксандра I звёў на нішто спрыяльныя артыкулы Цэнзурнага статута, паставіўшы на шляху друкаванага слова перашкоды, накіраваныя на ўстраненне ўсяго, што супярэчыла «відам урада», догматам рэлігіі і «дзяржаўнаму парадку». Правінцыяльны друк у надзвычай цяжкія ўмовы ставіла цэнтралізацыя цэнзуры. Так, для таго, каб атрымаць дазвол на друкаванне, а потым на выпуск кнігі ў свет, выдаўцы Беларусі павінны былі двойчы пабываць у цэнзурным камітэце Віленскай навучальнай акругі ў Вільні, у падначаленні якога былі друкарні Беларусі.

Са стварэннем у 1810 г. Міністэрства паліцыі і асобага цэнзурнага камітэта пры ім па сутнасці ўводзілася карная цэнзура, г. зн. праверка кнігі і пасля яе выхаду ў свет. У 1819 г. функцыі карнай цэнзуры перададзены Міністэрству ўнутраных спраў. Рэакцыйны курс у галіне

друку, узяты Аляксандрам І пасля Айчыннай вайны 1812 г., прадоўжыў яго пераемнік Мікалай І, які стаў па сутнасці галоўным цэнзарам Расіі. Паводле яго указання статут аб цэнзуры 1804 г. заменены спачатку статутам 1826 г., празваным за сваю рэакцыйнасць «чыгунным», а потым – статутам 1828 г., які быў толькі крыху мякчэйшай рэдакцыяй папярэдняга. У аснове абодвух статутаў ляжала імкненне расійскага самадзяржаўя не дапусціць пранікнення прагрэсіўных рэвалюцыйна-дэмакратычных тэндэнцый у сферу кнігадрукавання, забараняць творы, «шкодныя у адносінах да веры, прастола». Статут 1828 г. юрыдычна замацоўваў уведзеную ў 1817 г. шматлікасць цэнзур, ставячы гэтым лёс кнігі ў залежнасць ад волі ўрадавых чыноўнікаў. Нагляд за друкам даручаўся галоўнаму кіраўніцтву цэнзуры, у яго падначаленні былі цэнзурныя камітэты навучальных акруг. Практычна цэнзуру ажыццяўляла Трэцяе аддзяленне ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі, якому цэнзары павінны былі паведамляць пра вальнадумныя творы і іх аўтараў.

Каб узмацніць нагляд за друкам 2 красавіка 1848 г. быў створаны сакрэтны камітэт. Ён праглядваў выданні пасля іх выхаду ў свет і дакладваў цару аб усім, што супярэчыла відам урада. Час дзеяння гэтага камітэта (1848–1855 гг.) увайшоў у гісторыю як «змрочнае сямігоддзе» думкабоязі і «моравая палоса» (А. І. Герцэн).

У такіх надзвычай неспрыяльных умовах развівалася кнігавыдавецкая дзейнасць у дарэформенны перыяд (1801–60 гг.). У кнігавыдавецкай дзейнасці Беларусі гэтага перыяду выразна вылучаюцца 2 этапы, адзін з якіх ахоплівае 1801–32 гг., другі – 1833–60 гг. Калі першы этап характарызуецца ростам колькасці друкарань (36 супраць 13, якія дзейнічалі ў XVIII ст.) і выпушчаных кніг (725 супраць 352), то другі – памяншэннем таго (21) і другога (278), што з’явілася вынікам узмацнення ўрадавых рэпрэсій.

Пачатак першага этапу адзначаны палітыкай падладжвання ўрада да польскіх памешчыкаў, якая выявілася ў захаванні заканадаўства Рэчы Паспалітай, у паблажлівых адносінах да навучання на польскай мове, выказванні цярпімасці да езуітаў – членаў найбольш рэакцыйнага каталіцкага ордэна і аддача ў іх поўную аўтаномію школьнай і кнігавыдавецкай справы. Канец гэтага этапу ў сувязі з разгромам паўстання 1830–31 гг. азнаменаваўся закрыццём Віленскага універсітэта – адміністрацыйнага і навуковага цэнтра Віленскай навучальнай акругі, ліквідацыяй самой акругі, у склад якой уваходзілі навучальныя і

паліграфічныя прадпрыемствы Беларусі, пераўтварэннем каталіцкіх манастырскіх вучылішчаў і школ у рускія навучальныя ўстановы, забаронай ужывання польскай мовы ў справаводстве і навучанні і іншымі рэакцыйнымі па сваёй сутнасці мерамі.

У першай трэці XIX ст. на Беларусі дзейнічалі 3 тыпы друкарань: прыватныя (30), царкоўныя (2) і казённыя (4). Прыватныя друкарні былі прадпрыемствамі капіталістычнага тыпу, заснаванымі на наёмнай працы. Дзейнасць большасці такіх друкарань была кароткачасовай (2–3 гады), што тлумачылася слабым развіццём выдавецкай базы, адсутнасцю дзяржаўнага кніжнага гандлю, вузкім колам чытачоў, нізкай пакупніцкай здольнасцю насельніцтва, цэнзурнымі і іншымі перашкодамі, якія ставіў урад на шляху друкаванага слова. Гэтым тлумачыцца і невялікая колькасць выдадзеных імі кніг – 214, або 29,5% ад агульнай колькасці выданняў (725). Больш за палову іх выданняў (114) складала царкоўна-літургічная літаратура. Сярод т. зв. свецкай літаратуры на польскай мове, якая выдавалася прыватнымі друкарнямі, былі кнігі па сельскай гаспадарцы (9), філасофіі (4), медыцыне (3), ветэрынарыі (1) і інш. галінах ведаў, а таксама творы мастацкай літаратуры (18), у тым ліку мясцовых аўтараў – настаўніка Гродзенскай гімназіі К. Храмінскага, магістра Магілёўскай гімназіі Жукоўскага, наглядчыка гродзенскіх павятовых вучылішчаў І. Кулакоўскага. Большая частка выданняў свецкага характару (92) была арыгінальнай.

У прыватных друкарнях выдаваліся кнігі пераважна на польскай, а таксама яўрэйскай (88) і заходнееўрапейскіх мовах. Некалькі кніг выдадзена і на рускай мове: «Зема» (Мінск, 1828 г., 1831 г.) – твор рускага пісьменніка і перакладчыка А. М. Паўлава, які каля 15-ці гадоў правёў на Беларусі і ў Літве, «Новы руска-польскі буквар» (Гродна, 1829 г.) і «Палажэнне аб размежаванні Літоўска-Віленскай губерні» (Гродна, 1811 г.).

Уладальнікі прыватных друкарань, як правіла, былі і выдаўцамі, і гандлярамі кніг. Нярэдка мела месца і аддзяленне выдавецкіх функцый ад друкарскіх. У ролі выдаўцоў выступалі аўтары ўласных твораў, якія ставілі хутчэй асветніцкія, чым камерцыйныя, мэты. Напрыклад, настаўнік Мінскай гімназіі Ігнацій Легатовіч падрыхтаваў да выдання пераклад на польскую мову з нямецкай кнігі Я. Германа «Памешчык або інфляндскі гаспадар» (Мінск, 1823 г.), гродзенскі ўрач Кароль Тыфенбах выдаў на польскай мове кнігу «Аб вакцыне або каровінай воспе» (Гродна, 1803 г.), настаўнік рысавання Г. Эймант на ўласныя сродкі надрукаваў у

друкарні І. Ясеньскага кнігу вучэбна-прыкладнога характару «Пачатковыя асновы, найважнейшыя прапорцыі і спосабы рысавання» (Гродна, 1802 г.). У выпадках, калі аўтары не мелі сродкаў для выдання свайго твора, яны абʼяўлялі падпіску на яго і сабраныя сродкі аддавалі на плату за выдаткі па друкаванню. Так, напрыклад, зрабіў брэсцкі харунжы Ян Багушэвіч, аўтар «Курса маралі ў пытаннях і адказах...» (Гродна, 1809 г.).

Дзякуючы прыватнаму кнігавыданню на Беларусі зʼявіліся першыя кнігі навуковага характару па айчыннай гісторыі, медыцыне, ветэрынарыі, сельскай гаспадарцы, дамаводству, рысаванню і інш. Універсальны характар кніжнай прадукцыі прыватных друкарань садзейнічаў пашырэнню сферы распаўсюджання кнігі і стымуляваў дзейнасць творчай інтэлігенцыі.

Аднак малая магутнасць большасці друкарань была прычынай таго, што беларускія аўтары друкавалі свае творы за межамі Беларусі: часцей у Вільні, радзей у сталічных гарадах. Так, напрыклад, «Беларускі архіў старажытных грамат» (1824 г.), падрыхтаваны беларускім археографам і мовазнаўцам І. І. Грыгаровічам, выдадзены ў Маскве. У Маскве ж надрукаваны ў 1818 г. трэці нумар часопіса «Отечественный памятник, посвященный дружелюбному соединению российских и польских народов... на 1817 год» [1], падрыхтаваны да выдання настаўнікам рымскай і польскай літаратуры Магілёўскай гімназіі Ф. Орлем-Ашменцам. Царкоўных друкарань на Беларусі было толькі дзве. Адна з іх належала Полацкай езуіцкай акадэміі (1787–1820 гг.), потым Полацкаму вышэйшаму піярскаму вучылішчу (1824–31 гг.), другая – Рымска-каталіцкай кансісторыі ў Магілёве (была вядома таксама пад назвай друкарні С. Б. Сестранцэвіча, які зʼяўляўся магілёўскім архіепіскапам і мітрапалітам рымска-каталіцкай царквы ў Расіі[2]). Абедзве гэтыя друкарні мелі добрае на той час абсталяванне і вызначаліся актыўнай кнігавыдавецкай дзейнасцю. За перыяд з 1801 па 1832 гг. імі выдадзена 486 пазіцый, г. зн. больш за палову ўсёй кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі 1-й трэці XIX ст. У друкарні пры Полацкай езуіцкай акадэміі (да 1812 г. калегіі) усяго выдадзена 494 кнігі, а за 19 гадоў яе дзейнасці гэтага перыяду – 415. Больш як трэцюю частку з іх складалі творы

[1] Першыя 2 нумары пад назвай «Друг Россиян и их единомышленников обоего пола, или Орловский Российский журнал на 1816 год» выдадзены ў Арле ў 1816 г.

[2] Пад назвай «Магілёўская друкарня С. Б Сестранцэвіча» яна ўвайшла ў некаторыя афіцыйныя крыніцы і змешчана ў выхадных даных шэрагу яе выданняў. Як прыватная друкарня яна ўпамінаецца і ў даследаванні Б. Арлова «Паліграфічная прамысловасць Масквы».— М., 1953, с. 300.

канфесійна-клерыкальнай літаратуры. Уся астатняя выдавецкая прадукцыя, не лічачы часопіса «Miesięcznik połocki» («Полацкі штомесячнік») і рознага роду календароў, прызначалася для навучання і была падпарадкавана мэтам акаталічвання беларускага насельніцтва. На рускай мове ў гэтай друкарні надрукавана толькі хрэстаматыя «Кароткія выпіскі, сабраныя з некаторых пісьменнікаў на карысць юнацтву, якое навучаецца расійскай мове» (1816 г.).

Выдавецкая прадукцыя Полацкай акадэміі езуітаў не адлюстроўвала навуковых дасягненняў таго часу. Яна адмаўляла іх або замоўчвала, перашкаджаючы распаўсюджанню перадавой грамадскай і прыродазнай думкі. Разам з тым навучальная літаратура, што выдавалася езуітамі, у прыватнасці шматлікія буквары, слоўнікі, творы антычнай і польскай літаратуры, садзейнічала распаўсюджанню пісьменнасці і ведаў.

З выгнаннем езуітаў за межы Беларусі (1820 г.) іх друкарня была перададзена ва ўласнасць адкрытага ў Полацку ў 1822 г. Вышэйшага вучылішча ордэна піяраў. За 7 гадоў кнігавыдавецкай дзейнасці (1824-30 гг.) піяры выдалі 32 кнігі, большая частка якіх мела свецкі характар і была падпарадкавана патрэбам навучальнага працэсу. Кнігі на рускай мове ў гэтай друкарні не друкаваліся. Кнігавыдавецкая дзейнасць піяраў спынілася ў 1830 г. ў сувязі з выгнаннем іх з Полацка і закрыццём вучылішча. Іх друкарня прададзена Кіеўскаму універсітэту.

Прадукцыя Магілёўскай друкарні Рымска-каталіцкай кансісторыі мела пераважна свецкую накіраванасць. Патрэбам каталіцкай царквы былі падпарадкаваны толькі асобныя яе выданні – штогадовыя календары, або дырэкторыумы, і каталогі асоб каталіцкай іерархіі. На рускай мове тут выпушчана 9 выданняў, у тым ліку афіцыйныя і навучальныя кнігі, календары. З дзейнасцю гэтай друкарні звязана ўжыванне рускага грамадзянскага шрыфту. У ёй выдадзена першая на тэрыторыі Беларусі кніга на рускай мове грамадзянскага друку «Кацярыны II пастановы для кіравання губерняў» (1777 г.).

У адрозненне ад прыватных (дзейнасць большасці з іх была кароткачасовай) і царкоўных (апошняя з іх перастала існаваць у 1844 г.) казённыя друкарні, г. зн. друкарні губернскіх праўленняў, існавалі больш або крыху менш за стагоддзе (Віцебская і Мінская адкрыты ў 1797 г., Гродзенская ў 1820 г., Магілёўская ў 1834 г.). Губернскія друкарні, якія існавалі на сродкі губернскіх праўленняў, мелі статус казённа-камерцыйных прадпрыемстваў. Выданне кніг у гэтых друкарнях насіла

выпадковы характар. З 725-ці выяўленых выданняў беларускіх друкарань 1-й трэці XIX ст. ў губернскіх друкарнях надрукавана толькі 25, або 3,4% (у прыватных 214, у царкоўных 486).

Найбольшая колькасць кніг у гэты перыяд выдадзена ў Мінскай губернскай друкарні – 20 выданняў. Сярод іх навучальныя праграмы мясцовай гімназіі, нотнае выданне («Śpiew do poloneza», 1817 г.), перадрук віленскага календара («Kalendarz Litewski na rok 1822», 1821 г.), адно выданне філасофскага зместу («Projtoictiones philosophia», 1811 г.), пропаведзі біскупа Я. Дзядзеркі («Wezwanie do założenia szpitala», 1810 г.), творы т. зв. малых жанраў І. Быкоўскага, Я. Ходзькі. Тут у 1808 г. надрукавана сатырычная камедыя рускага пісьменніка ліберальнага кірунку В. Капніста «Паклёпнік, або Суцяжніцтва» («Jabeda, to est Pieniactwo») у перакладзе на польскую мову М. Тамашэўскага. Пераклад быў не ідэнтычны арыгіналу і зместам, і формай (пазбягаліся з’едлівыя выразы ў адрас прадстаўнікоў пануючага класа, вершаваны арыгінал быў перакладзены прозай). Крыху раней (у 1799 г.) у Мінскай губернскай друкарні надрукаваны навучальны дапаможнік «Лёгкі спосаб навучыцца чытаць па-руску і па-польску) («Łatwy sposób nauczenia się czytać po rossyjsku y po polsku»). Гэта было першае беларускае выданне грамадзянскага друку падручніка, які змяшчаў тэксты на рускай мове.

У 1812 г. у час акупацыі Беларусі французскімі войскамі абсталяванне Мінскай губернскай друкарні было ў распараджэнні ўстаноўленай у Мінску адміністрацыйнай улады. У гэтай друкарні побач з распараджэннямі мясцовых улад друкавалася «Часовая Мінская газета». Яна выходзіла на польскай і французскай мовах 2 разы на тыдзень памерам ад 2-х да 6-ці старонак. У газеце друкаваліся паведамленні з тэатра ваенных дзеянняў, аб падзеях з мясцовага жыцця, распараджэнні т. зв. Камісіі часовага праўлення Вялікага княства Літоўскага, якая прадстаўляла французска-польскі ўрад на Беларусі і у Літве. Нягледзячы на тэндэнцыйную падачу, фактычны матэрыял газеты можа быць крыніцай для вывучэння гісторыі Беларусі перыяду Айчыннай вайны 1812 г. Пасля выгнання ворага ў снежні 1812 г. друкарня зноў вернута ў распараджэнне губернскага праўлення.

У дзвюх іншых губернскіх друкарнях Беларусі (Віцебскай і Гродзенскай), якія функцыяніравалі ў гэты перыяд, кнігі выдаваліся эпізадычна. Першымі выданнямі Віцебскай губернскай друкарні былі

панегірычны твор «Пахвальная песня...»[1], напісаны ў вернападданніцкім духу, і прытча «Арлы і шпакі» (1806 г.) рускага пісьменніка і драматурга П. І. Сумарокава, які служыў у той час на Беларусі, а ў 1808–1811 гг. быў віцебскім губернатарам. Абодва гэтыя выданні надрукаваны на рускай мове грамадзянскім шрыфтам. У час Айчыннай вайны 1812 г. гэта друкарня цалкам знішчана і адноўлена толькі ў 1815 г. У 1820 г. і 1827 г. у ёй выдадзены невялікія работы па ветэрынарыі віцебскага ўрача К. Гібенталя. Вядома адзінае кніжнае выданне Гродзенскай губернскай друкарні – брашура «Пра збіранне звестак аб ленных маёнтках і правах на іх» (1820 г.).

Асобае месца сярод казённых друкарань належала ваенна-паходнай друкарні Галоўнага штаба 1-й рускай арміі ў Магілёве. У ёй на рускай мове надрукаваны інструкцыя па ваеннай справе «Камандныя словы і выкананне паводле іх у батальённым вучэнні для карыстання субалтэрн-афіцэраў» (1817 г.) і арыгінальнае даследаванне ўраджэнца Беларусі доктара медыцыны і хірургіі К. Грум-Гржымайлы «Пра каўтун» (1828 г.).

Нягледзячы на малы аб'ём кніжнай прадукцыі казённых друкарань у 1-й трэці XIX ст., іх дзейнасці абавязаны сваім з'яўленнем першыя навуковыя, навучальныя, прыкладныя і мастацкія кнігі на рускай мове грамадзянскага друку. Выданне кніг на рускай мове ў гэты перыяд (16), ды і наогул у 1-й палове XIX ст. (28), трэба разглядаць як перадгісторыю грамадзянскага кнігадрукавання.

Пасля задушэння паўстання 1830–31 гг. царызм распачаў умацаванне на Беларусі сваіх палітычных пазіцый, накіраваных на замацаванне самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, зрабіў шэраг захадаў, каб выкараніць тут польскі нацыянальны рух і аслабіць каталіцкі ўплыў. Створаны Мікалаем I «Асобы камітэт па справах заходніх губерань» правёў так званы «разбор» шляхты, у выніку якога болъш за 10 тысяч чалавек былі пераведзены ў разрад аднадворцаў. На адміністрацыйныя пасады прызначаліся толькі рускія чыноўнікі. У 1839 г. прынята рашэнне аб ліквідацыі уніяцкай царквы і аб'яднанні яе з праваслаўнай, скарочана колькасць каталіцкіх манастыроў і манастырскіх вучылішчаў, школ, канфіскаваны іх бібліятэкі, забаронена ўжыванне польскай мовы ў справаводстве, уводзілася рускае заканадаўства, пашыралася сетка рускіх школ. Гэтыя дзеянні ўрада мелі і станоўчае значэнне, бо вялі да ліквідацыі засілля каталіцызму і схаластыкі, далучалі перадавую

---

[1] Пахвальная песня пры ўступленні на прастол імператара ўсёй Расіі Паула Пятровіча Першага, апетая шклоўскімі яўрэямі і з імі спалучаным грамадствам на Беларусі. — Віцебск, 1799.

беларускую інтэлігенцыю і часткова народныя масы да багатай рускай культуры. Такім чынам, ствараліся перадумовы для росту нацыянальнай самасвядомасці інтэлігенцыі, у асяроддзі якой узмацнялася цікавасць да вывучэння жыцця беларускага народа, яго этнаграфіі і фальклору, для выдання кніг не толькі на рускай, але і на беларускай мове, з'яўлення твораў беларускіх і беларуска-польскіх пісьменнікаў.

Рост пісьменнасці (да пачатку 1860-х гг. на Беларусі было 16,8 тысяч навучэнцаў), пашырэнне кола адукаваных людзей, падпарадкаванне адукацыі інтарэсам эканомікі, што развівалася, знаходзілі адлюстраванне і ў кніжнай справе. У друкарскай вытворчасці зацвярджаўся капіталістычны спосаб. Разам з тым імкненне ўрада штучна затрымаць развіццё друкарска-выдавецкай справы ў правінцыі (абмежаванне адкрыцця новых друкарань, абавязковасць атрымання дазволу цара на выпуск перыядычных выданняў і г. д.) з'явілася прычынай скарачэння колькасці друкарань на гэтым этапе. Так, у 1833-60 гг. на Беларусі функцыяніравала 21 друкарня (17 прыватных і 4 губернскія). З памяншэннем колькасці прыватных друкарань і пачаткам выдання ў губернскіх друкарнях афіцыйнай газеты «Губернские ведомости» паменшылася колькасць кніг, якія ў іх друкаваліся. Калі ў 1801–32 гг. у сярэднім выдаваліся 22 кнігі ў год, то ў 1833–60 гг. – каля 10.

Удзельная вага кніг на польскай мове значна паменшылася (115 назваў, або 41,5% ад агульнай колькасці кніг). Затое больш стала выданняў на яўрэйскай мове (103, або 37%). Павялічылася колькасць кніг на рускай мове – 22 назвы, або 8 %. Усе яны друкаваліся ў губернскіх друкарнях. У Мінскай друкарні выдадзены «Памятная кніжка Мінскай губерні» (1845 г.), «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні» (1848 г.), вершаваная аповесць выкладчыка Мінскай гімназіі Д. І. Сергіеўскага «Пан Дольскі, або Спатканне з дачкой» (1845 г.), у аснову якой пакладзены матэрыял мясцовай гісторыі. Кнігі на рускай мове друкаваліся і ў прыватных друкарнях. У Мінскай друкарні І. Стэфановіча ў 1833 г. выдадзена кніга А. Паўлава «Падарунак выхаваным вучням і вучаніцам на новы 1834 год, або Павучальныя дзіцячыя аповесці, якія служаць навучанню розуму і сэрца», у Гродзенскай друкарні З. Нахімовіча ў 1829 г. – «Новы руска-польскі буквар», у друкарні Ф. Фалька – «Узоры рускай, польскай, французскай і нямецкай каліграфіі» (1848 г.) і інш.

Новай з'явай для гэтага перыяду стаў выхад афіцыйных газет – «Губернских ведомостей», па сутнасці адзіных на працягу многіх

дзесяцігоддзяў правінцыяльных органаў друку. На тэрыторыі Беларусі выдаваліся «Витебские губернские ведомости» (1838–1918 гг.), «Гродненские губернские ведомости» (1838–1915 гг.), «Могилёвские губернские ведомости» (1838–1917 гг.), «Минские губернские ведомости» (1838–1917 гг.). Паводле праграмы, выкладзенай у «Палажэнні аб парадку спраў у губернскіх праўленнях» ад 3.6.1837 г., галоўнай іх мэтай было аператыўнае распаўсюджанне інфармацыі аб законах і распараджэннях урада і губернскіх улад і аб іншых «прадметах, належных да агульнага ведама».

З 1840-х гг. побач з афіцыйнай выдавалася і неафіцыйная частка газеты, на старонках якой час ад часу змяшчаліся краязнаўчыя матэрыялы этнаграфічнага, фальклорнага, літаратуразнаўчага, гістарычнага характару. Многія з іх выходзілі ў свет у выглядзе асобных адбіткаў. Каштоўнасць «Губернских ведомостей» як гістарычнай крыніцы ў розныя гады была неаднолькавай, што абумоўлівалася іх цэнзурна-прававым становішчам. З’яўленне ў губернскіх цэнтрах «Ведомостей» станоўча паўплывала на ўмацаванне паліграфічнай базы і развіццё кнігавыдання на рускай мове.

У параўнанні з папярэднім перыядам крыху скараціўся выпуск кніг на заходнееўрапейскіх мовах, што кампенсавалася выпускам перакладной літаратуры з нямецкай і французскай моў (18кніг).У 2-й трэці XIX ст. на тэрыторыі Беларусі амаль што спыніўся выпуск літаратуры на лацінскай, яўрэйскай і латышскай мовах.

У выніку дыспрапорцыі паміж попытам на кнігу, які павялічваўся, і магчымасцямі мясцовых друкарань многія кнігі на польскай мове (43), падрыхтаваныя беларускімі выдаўцамі і кнігагандлёўцамі, друкаваліся за яе межамі. Так, у Вільні было надрукавана 12, у Варшаве 11, Пецярбургу 20 такіх выданняў. Напрыклад, мінскія выдаўцы браты Бейліны друкавалі кнігі ў Вільні (A. Pług. «Głos z Litwy», 1859 г.) і Варшаве (яго ж. «Pamiątki domowe», 1858 г.), гродзенскі кнігагандлёвец Юзаф Загаеўскі – у Віленскай друкарні С. Разенсона (Ostrowski E. «Listy z podróży odbytej do stępów kirgis-kajsackich», t. 1–2, 1859 г.). У Варшаве (у друкарнях І. Яворскага і «Gazety codziennej» – «Штодзённай газеты»), Пецярбургу (у друкарнях К. Края і М. Этынгера і інш.) і Вільні (у друкарні К. Венхобера) друкаваліся літаратурныя творы і даследаванні польскіх і беларуска-польскіх пісьменнікаў І. Крашэўскага, І. Фрэдры, Л. Кандратовіча (У. Сыракомлі) і інш., падрыхтаваныя да выдання ў Віцебску і Магілёве, выпушчаныя на сродкі («накладам») буйнога

пецярбургскага кнігагандлёўца і друкара Баляслава Вольфа, які меў у Магілёве і Віцебску ўласныя кнігарні. Практыка выпуску кніг на сумесных пачатках прадстаўнікамі сферы кніжнай справы гарадоў Беларусі і Расіі была зусім новай з'явай для беларускага кнігавыдання.

Да сярэдзіны XIX ст. агульны крызіс феадальна-прыгонніцкага ладу ў Расы, у т. л. на Беларусі, дасягнуў асаблівай вастрыні, наспела рэвалюцыйная сітуацыя. Змена феадальна-прыгонніцкай фармацыі капіталістычнай закончылася сялянскай рэформай 1861 г. Працэс развіцця капіталізму закрануў і сферу кніжнай справы. Выданне кніг пераходзіла ў асноўным да буржуазных прадпрыемцаў. У канцы XIX ст. на Беларусі дзейнічала ўжо не 17, як раней, а 45 прыватных друкарань, якія займаліся кнігадрукаваннем, у тым ліку 35 новых. Адбывалася аб'яднанне друкарань, далейшае развіццё атрымала тэндэнцыя да падзелу выдавецкіх і друкарскіх функцый. Так, у Мінску ўзнікла выдавецтва Бейліных.

Акрамя выдаўцоў-камерсантаў былі і выдаўцы-мецэнаты, аматары літаратуры і мастацтва: дваранін Мінскай губерні Вайніловіч, урач В. Газдзіцкі, пісьменнікі А. Пяткевіч (А. Плуг), Драздовіч і інш. Аднак іх выдавецкая дзейнасць мела выпадковы характар. Кожны з іх выпусціў адно-два выданні: Вайніловіч – пераклад на польскую мову аповесці А. С. Пушкіна «Браты-разбойнікі» (1843 г.), В. Газдзіцкі – рэлігійна-рамантычную паэму «Obzaz z obzazów uczuć ludzkich» (1848 г.), Драздовіч – «Teatr miński. Oddział pierwszy. Wieczór błędu i jajecznica zaczarowana» (1844 г.). Да мецэнатаў можна аднесці і К. К. Вольфганга – выдаўца «Ondyny druskienickich źródeł» («Ундзіны»), па сутнасці першага часопіса, які выдаваўся на тэрыторыі Беларусі (у Гродзенскай губернскай друкарні). Гэта быў літаратурна-гістарычны і медыцынскі часопіс ліберальнага кірунку. Ён выходзіў на польскай мове з красавіка 1844 г. па снежань 1846 г. (1 раз у месяц на працягу 8 месяцаў курортнага сезона ў Друскеніках). Усяго выйшла 24 нумары. На яго старонках публікаваліся творы К. Буйніцкага, І. Крашэўскага, А. Адынца, Т. Зана, Л. Падбярэзскага, У. Сыракомлі, а таксама работы Т. Нарбута, даследаванні самога выдаўца.

Дзейнічала на Беларусі ў гэты перыяд і група выдаўцоў уласных твораў: польскія і беларускія пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч і У. Сыракомля, А. Валіцкі, кампазітар С. Манюшка і інш. В. Дунін-Марцінкевіч быў першым выдаўцом твораў беларускай мастацкай літаратуры на мове арыгінала непасрэдна на тэрыторыі Беларусі.

У Мінску выдадзены на беларускай і польскай мовах яго «Вечарніцы» (1855 г.), «Цікавішся? – Прачытай» (1856 г.), «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857 г.). У іх аўтар закранаў вострыя сацыяльныя праблемы запрыгоненай беларускай вёскі, імкнуўся паказаць і раскрыць духоўную прывабнасць беларускага мужыка. Шэраг сваіх твораў на беларускай мове В. Дунін-Марцінкевіч друкаваў у Вільні. Так, у друкарні Ю. Завадскага надрукавана лібрэта яго камічнай оперы «Ідылія» (1846 г.). Аднак многія яго творы, як і іншых беларускіх пісьменнікаў, заставаліся ў рукапісах.

З 1860-х гг. ва ўсіх губернскіх гарадах узніклі выдавецтвы статыстычных камітэтаў, адкрываліся кнігарні і бібліятэкі. У Мінску, напрыклад, функцыяніравалі выдавецтвы Таварыства сельскіх гаспадароў, братоў Бейлiных, С. Савіцкай, кнігарні Е. Фрэнкеля; у Віцебску – Таварыства сельскіх гаспадароў, епархіяльнага Свята-Уладзімірскага брацтва; у Полацку – Кадэцкага корпуса; у Гродне – «І. і М. Харын і К°» і фабрыкі канторскіх кніг М. В. Харына.

У гэтыя часы намецілася некаторае паслабленне цэнзуры. Аднак на Беларусі правядзенне цэнзурнай рэформы супала з перыядам рэакцыі, які наступіў пасля разгрому паўстання 1863–64 гг. Паводле «Часовых правіл аб цэнзуры» 1865 г., якія былі законам аж да 1906 г., тут паліграфічныя прадпрыемствы аддаваліся пад кантроль чыноўнікаў для асобых даручэнняў пры губернскіх уладах – інспектараў, у абавязкі якіх уваходзіла «папярэджанне і спыненне тайнага кнігадрукавання». У правінцыі па-ранейшаму існавала папярэдняя цэнзура, якая ажыццяўлялася агульнай і ведамаснай цэнзурамі. Працягвала дзейнічаць і карная цэнзура ў асобе Трэцяга аддзялення. Пра свабоду друку не магло быць і гаворкі.

Колькасць выдадзеных у гэты перыяд кніг значна павялічылася. Калі ў 1-й палове XIX ст. на Беларусі выдадзена 916 кніг, у т. л. на рускай мове 28, то ў 2-й палове – 2241. Толькі на рускай мове штогадовы выпуск кніг павялічыўся на 43 выданні. Калі ў 1-й палове XIX ст. на польскай мове выдадзена 455 пазіцый, або 50 % ад агульнай колькасці выданняў, на лацінскай – 199, або 21,5 %, на рускай – 28. або 3%, то ў 2-й палове XIX ст. – адпаведна 76, або 3,5%, 12, або 0,5%, і 2153, або 96%. Адбыліся зрухі і ў характары кнігавыдання: павялічылася ўдзельная вага свецкай кнігі, пашырыліся яе тэматычныя межы. Побач з афіцыйнай дамінуючае становішча заняла сацыяльна-эканамічная літаратура краязнаўчага характару. Гэтаму садзейнічаў і ўрад, зацікаўлены ў вывучэнні

прадукцыйных сіл і ў збіранні статыстычных звестак пра эканамічныя рэсурсы губерняў.

Вялікі ўклад у вывучэнне краю, яго гісторыі і культуры рабілі прадстаўнікі беларускай разначыннай інтэлігенцыі. У краязнаўчай рабоце яны бачылі магчымасць аддаць свае сілы на карысць народу. Вынікі сваіх даследаванняў яны публікавалі на старонках «Губернских ведомостей» і «Памятных кніжак», якія з 1860 г. штогод выдаваліся ў губернскіх гарадах. Многія з гэтых публікацый выходзілі потым асобнымі выданнямі.

«Памятныя кніжкі», з'яўляючыся друкаванымі органамі губернскіх статыстычных камітэтаў, фактычна ператварыліся ў органы мясцовай краязнаўчай грамадскасці і сталі адной з дакладных крыніц для гісторыка-археалагічнага вывучэння Беларусі. Акрамя гісторыка-статыстычных нарысаў, апісання гарадоў і іншых населеных месцаў, у іх нярэдка змяшчаліся фальклорна-этнаграфічныя нарысы, матэрыялы пра старажытнасці з выкарыстаннем архіўных крыніц. Належнае месца сярод іх займалі работы вядомых беларускіх вучоных Дз. І. Даўгялы, М. А. Дзмітрыева, М. В. Доўнар-Запольскага, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова, А. М. Семянтоўскага, У. К. Стукаліча і інш.

Апрача «Памятных кніжак» губернскія статыстычныя камітэты выдавалі «Кішэнныя кніжкі», «Працы», «Справаздачы», «Агляды... губерань», «Спісы землеўладальнікаў», статыстычныя табліцы, а таксама манаграфічныя работы. Нярэдка ў падобных выданнях змяшчаўся даведачна-пошукавы апарат, у т. л. бібліяграфічныя спісы. Так, «Кароткі нарыс Мінскай губерні ў фізіка-геаграфічных і статыстыка-эканамічных адносінах» Ф. Н. Ястрэмскага (Мінск, 1897 г.) мае даведачны спіс літаратуры, пералік кветкавых раслін. Шырокі паказальнік твораў, артыкулаў і заметак па археалогіі Мінскай губерні змешчаны ў кнізе А. П. Смародскага «Дзевяты археалагічны з'езд у Вільні» (Мінск, 1893 г.).

Прыкметна актывізавалася публікацыя помнікаў старажытнасці. На выданне дакументаў старадаўнасці царскі ўрад глядзеў як на сродак умацавання пазіцый самадзяржаўя і абгрунтавання сваіх правоў на тэрыторыю ўз'яднаных заходніх зямель. Разам з тым у дакументах адлюстроўвалася становішча сялянства і гарадской беднаты, быў багаты фактычны матэрыял для вывучэння форм феадальнай эксплуатацыі. У іх яскрава паказана барацьба праваслаўя з каталіцызмам і уніяй,

настойлівае імкненне ўлад Рэчы Паспалітай да паланізацыі беларускага насельніцтва і яго ўпартае супраціўленне гэтаму.

З’явай у гісторыі кнігавыдання Беларусі гэтага перыяду былі 32 тамы «Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў, выбраных з актавых кніг губерань Віцебскай і Магілёўскай» (Віцебск, 1871–1906 гг.), выдадзеныя Віцебскім архівам старажытных актаў, і 3 тамы «Віцебска даўніны» (Віцебск, 1883, 1885 і 1888 гг.). У Віцебскіх выданнях, акрамя афіцыйных матэрыялаў, друкаваліся цікавыя даследаванні па гісторыі, этнаграфіі і фальклору Беларусі, асвятляліся пытанні становішча сялян у губерні. Так, Віцебская вучоная архіўная камісія па даследаванню старадаўнасці выдала тры выпускі зборніка «Полацка-Віцебская даўніна» (1911–16 гг.), апублікавала «Летапіс горада Віцебска», «Кароткі летапіс падзей, якія ўплывалі на лес Віцебскай губерні» (1903 г.), а таксама кнігі А. П. Сапунова «Полацкі Сафійскі сабор» (1888 г.), «Нарыс гістарычных лёсаў праваслаўя і рускай народнасці на Беларусі наогул і ў межах Полацкай епархіі ў прыватнасці» (1910 г.), «Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні» (1903 г.), М. Я. Нікіфароўскага «Старонкі з недалёкай даўніны горада Віцебска» (1899 г.). Падзеі Айчыннай вайны 1812 г. шырока асвятляліся ў кнігах В. С. Арсеньева «Дакументы аб французскіх ваеннапалонных 1812–1813 гадоў у Віцебскай губерні» (1910 г.) і «Дакументы 1813 года са спраў Віцебскага губернскага праўлення» (1910 г.), В. І. Глыбоўскага «1812 год у Віцебскай губерні» (1910 г.), У. К. Дабравольскага «Віцебская губерня ў Айчынную вайну» (1912 г.), М. А. Мельнікавай «1812 год у Віцебскай губерні» (1911 г.), У. П. Цэханавецкага «Кароткае апісанне ваенных дзеянняў у Віцебскай губерні ў часы Айчыннай вайны 1812 года» (1892 г.), П. М. Красавіцкага «Генерал-маёр Якаў Пятровіч Кульнеў і бой пад Клясціцамі» (1912 г.) і інш.

З этнаграфічных даследаванняў найбольшай увагі заслугоўваюць выдадзеныя ў Віцебску працы М. Я. Нікіфароўскага «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку: (Этнаграфічныя звесткі)» (1895 г.), «Простанародныя прыметы і павер’і, забабонныя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асоб і мясціны» (1897 г.), «На глебе прастаты веры: (Побытавая карцінка)» (1898 г.). Многія матэрыялы, якія ўвайшлі ў гэтыя выданні, спачатку друкаваліся ў «Витебских губернских ведомостях». Найкаштоўнейшым зборам беларускай народнай творчасці з’яўляюцца 3-ці, 4-ты і 5-ты выпускі шматтомнага выдання Е. Р. Раманава «Беларускі

зборнік» (1887 г., 1891 г.), а таксама яго кнігі «Кара ў сто гадоў» (1894 г.) і «Літасцівы Восін, або Літасці хачу, а не ахвяры» (1896 г.). У спалучэнні з віленскімі і некаторымі іншымі выданнямі археаграфічнага характару яны з'яўляюцца багатай базай для вывучэння гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Гэтыя матэрыялы і сёння актыўна выкарыстоўваюць беларускія вучоныя ў сваіх даследаваннях.

З прац мясцовых вучоных, выдадзеных у Магілёве, асаблівай увагі заслугоўвае шматтомнае выданне А. С Дэмбавецкага «Вопыт апісання Магілёўскай губерні» (1882 г.) з грунтоўнай прадмовай. Пад рэдакцыяй Е. Р. Раманава выдадзены тры выпускі «Магілёўскай даўніны» – зборніка артыкулаў неафіцыйнай часткі «Могилевских губернских ведомостей» (у 1898–99, 1900–01 і 1901–03 гг.). У зборніку змешчаны матэрыялы аб раскопках і археалагічных знаходках, тэкст Баркулабаўскага летапісу, артыкулы па гісторыі, этнаграфіі і беларускаму мовазнаўству вядомых беларускіх вучоных Дз. І. Даўгялы, Я. Ф. Карскага, Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова і інш. У асобных выданнях характарызаваўся стан народнай гаспадаркі ў губерні.

Мастацкая літаратура на рускай мове ў XIX ст. была прадстаўлена пераважна творамі малых жанраў. Толькі на мяжы XX ст. ў Мінску з'явіліся выданні тыпу альманахаў і зборнікаў: «Каласы» (1898 г.), «Туманы» (1909 г.), «Зямныя сны» (1910 г.), «Правінцыяльны месяц» (1915 г.). Так, у зборніках «Каласы» і «Зямныя сны» звяртаюць на сябе ўвагу творы пісьменніка і публіцыста рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку Д. Д. Бохана. У 1890-я гг. ён апублікаваў свой паэтычны пераклад «Слова аб палку Ігаравым» і мінскія паданні «Бока Хрыстова», у альманаху «Зямныя сны» змясціў свае пераклады вершаў польскага паэта і празаіка Казімежа Татмаера. У перыяд Рэвалюцыі 1905–07 гг. Бохан рэдагаваў прагрэсіўную мінскую газету «Голос провинции», у якой змяшчаў матэрыялы рэвалюцыйнага зместу, горача выступаў у абарону нацыянальнай культуры беларускага народа. У альманахах «Туманы» і «Зямныя сны» змешчаны вершы Анатоля Зіміёнкі, які пазней пісаў вершы для дзяцей на беларускай мове і публікаваў іх у беларускім савецкім друку. Побач з мастацкімі творамі ў зборніках змяшчаліся і літаратуразнаўчыя артыкулы. У зборніку «Туманы» заслугоўвае ўвагі крытычны артыкул «Аляксандр Блок» беларускага публіцыста і літаратурнага крытыка У. Самойлы. Будучы супрацоўнікам газеты «Минский курьер», ён узняў у 1907 г. на яе старонках пытанне пра неабходнасць стварэння школ з навучаннем на беларускай мове. Ён жа

дапамог Я. Купалу апублікаваць у газеце «Северо-Западный край» верш «Мужык» (1905 г.), а калі выйшлі кніга вершаў Я. Купалы «Жалейка» (1908 г.) і паэма «Адвечная песня» (1910 г.), даў ім аб'ектыўную ацэнку.

Незвычайным уздымам адзначана кнігавыданне пачатку XX ст. За перыяд з 1900 па кастрычнік 1917 г. на Беларусі выйшла 4355 выданняў – у 2 з лішнім разы больш, чым у 2-й палове XIX ст. У сярэднім за год выдавалася па 256 кніг, г. зн. на 211 больш, чым у 2-й палове папярэдняга стагоддзя.

Як і раней, самую шматлікую групу выданняў складала афіцыйная літаратура, якая карысталася асаблівай апекай урада: справаздачы, пратаколы і журналы рознага роду сходаў і з'ездаў урадавых, адміністрацыйных і земскіх упраў, прамысловых прадпрыемстваў і акцыянерных фірм, дабрачынных таварыстваў і іншых грамадскіх арганізацый. Папоўніўся таксама склад выданняў краязнаўчай, навуковай, прыкладной літаратуры, павялічыўся выпуск навукова-папулярных кніг, асабліва па медыцыне.

Колькасць друкарань у гэты перыяд паменшылася да 27, прычым 12 з іх былі новымі. Намецілася спецыялізацыя выдавецкай дзейнасці некаторых прыватных друкарань. Больш кніг пачалі друкаваць губернскія друкарні.

Вялікай перамогай Рэвалюцыі 1905–07 гг. была заваёва свабоды друку. Праўда, гэта заваёва была часовая і няпоўная, дачакаўшыся таго часу, калі рэвалюцыйная хваля пайшла на спад, царскі ўрад пачаў уносіць рознага роду «дапаўненні», «правілы» і «цыркуляры», якія стрымлівалі, абмяжоўвалі і ўрэзвалі друкаванае слова. Але з канца 1905 г. пачаўся незвычайны ўздым і ажыўленне ў галіне кнігадрукавання і перыёдыкі. У вялікіх і малых гарадах пачалі выходзіць новыя газеты і часопісы, з'явілася небывалая колькасць грамадска-палітычных і эканамічных кніг і брашур, у тым ліку легальныя выданні марксісцкага напрамку. «Свабоду друку, абяцаную ў межах, дазволеных Трэпавым, рэвалюцыйны пралетарыят расшырае сваёй магутнай рукой да некалькі больш шырокіх межаў» (У. І. Ленін. Тв. т. 9, с. 421).

Прагрэсіўны рэвалюцыйны друк Беларусі прайшоў праз тыя самыя этапы развіцця, што і рускі друк. Узнікненне на Беларусі нелегальнага рэвалюцыйнага друку звязана з дзейнасцю падпольнай друкарні ў Мінску, створанай у 1879 г. членамі рэвалюцыйнай арганізацыі «Чорны перадзел». Друкарня «Чорнага перадзелу» амаль на працягу года забяспечвала Расію народніцкай літаратурай. Шрыфт для гэтай

друкарні быў здабыты ў віленскай друкарні ваеннай акругі і ў гродзенскай друкарні Гурвіча. У Гродне быў зроблены і станок. На працягу 1881 г. у гэтай друкарні надрукавана 7 нумароў газет «Чёрный передел» (№ 3, 4 і 5), «Зерно» (№ 3–6) і 5-ці пракламацый. Вялікая колькасць рэвалюцыйных пракламацый сярод насельніцтва і салдат распаўсюджвалася групай «Чорнага перадзелу» ў Гродзенскай губерні. Выданні друкарні «Чорнага перадзелу» з'яўляюцца першынцамі падпольнага кнігадрукавання на Беларусі на рускай мове.

З ідэйным разгромам народніцтва, завершаным У. І Леніным, была расчышчана глеба для распаўсюджання ў Расіі, у тым ліку і на Беларусі, марксізма. Пачалі з'яўляцца публікацыі аб цяжкіх умовах працы на фабрыках і аб рабочым руху. Яны змяшчаліся на старонках «Минского листка» і друкаваліся ў выглядзе лістовак Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП. На старонках прагрэсіўнай грамадска-палітычнай газеты «Северо-Западный край» была надрукавана прынятая на II з'ездзе праграма РСДРП, праца У. І. Леніна «Дробнабуржуазны і пралетарскі сацыялізм», вытрымкі з шэрагу іншых ленінскіх работ. У 1904 г. Палескім камітэтам РСДРП выдадзена першая на тэрыторыі Беларусі кніга У. І. Леніна. Гэта было падпольнае бальшавіцкае выданне пад назвай «Барацьба гарадскіх рабочых і чаго хочуць сацыял-дэмакраты», у якое ўвайшлі 1-шы і 2-гі раздзелы брашуры У. І. Леніна «Да вясковай беднаты», упершыню выдадзенай у 1903 г. ў Жэневе. Частка тыражу друкавалася ў падпольнай друкарні Палескага камітэта РСДРП у Навазыбкаве, частка – у Гомелі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. актывізавалася дзейнасць шырокіх мае працоўных Расіі. Надзённай задачай бальшавікоў стала прапагандысцкая і растлумачальная работа ў масах. У жніўні 1917 г. у Мінску ўпершыню легальна пачала выдавацца бальшавіцкая газета «Звязда». Створанае пры ёй бальшавіцкае выдавецтва «Звязда» разгарнула дзейнасць па выпуску найбольш актуальнай прапагандысцкай літаратуры.

У першыя месяцы свайго існавання выдавецтвам «Звязда» выпушчана 6 брашур У. І. Леніна: «Зямельнае пытанне», «Да моманту», «Аб сялянстве», «Палітычныя партыі ў Расіі і задачы пралетарыяту», «Руская рэвалюцыя і грамадзянская вайна», «Урокі рэвалюцыі». Работы У. І. Леніна па найбольш надзённых пытаннях выдавецтва друкавала выключна аператыўна. Так, артыкул У. І. Леніна «Руская рэвалюцыя і грамадзянская вайна», напісаны ў пачатку верасня і апублікаваны ў

газеце «Рабочий путь» 16 верасня, у тым самым месяцы выйшаў асобнай брашурай у Мінску. Усе гэтыя працы У. І. Леніна, выдадзеныя напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі, мелі велізарнае значэнне ў згуртаванні беларускага народа і салдат Заходняга фронту вакол партыі бальшавікоў, у мабілізацыі іх на барацьбу за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

Наступная брашура У. І. Леніна таксама аператыўна была выпушчана выдавецтвам «Звязда» ўжо ў савецкі час. Гэта быў раздзел з даклада Уладзіміра Ільіча на ІІ Усерасійскім з’ездзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які адбыўся 26.10(8.11).1917 г. Брашура выйшла пад загалоўкам «Як ашукалі народ сацыялісты-рэвалюцыянеры і што даў народу новы ўрад бальшавікоў».

Акрамя прац У. І. Леніна, выдавецтва «Звязда» выпусціла за кароткі тэрмін шэраг іншых палітычных выданняў: «Праграма і Статут РСДРП», «Бальшавікі аб зямлі», «Пратаколы Паўночна-Заходняй вобласці (Паўночна-Заходняга Камітэта РСДРП)» і інш. Былі выдадзены таксама асобныя творы М. Горкага і Р. Джаваньёлі.

Уяўленне пра тэматычную структуру кнігавыдавецкага масіву беларускіх друкарань за XIX – пачатак XX ст. можна атрымаць з ніжэй прыведзенай табліцы.

| Тэматыка | Колькасць выданняў | Тэматыка | Колькасць выданняў |
|---|---|---|---|
| Клерыкальна-канфесійная | 1004 | Літаратура па дамаводству, тэхніцы кіравання, прамысловай хіміі, розных відаў вытворчасці, будаўнічай справе | 151 |
| Грамадска-палітычная | 2543 | Па мастацтву | 84 |
| Філалагічная | 64 | Па літаратуразнаўству і мастацкай літаратуры | 35 |
| Матэматычная | 61 | Іншая | 946 |
| Прыродазнаўчанавуковая | 81 | | |
| Медыцынская | 207 | | |
| Тэхнічная | 77 | | |
| Сельскагаспадарчая | 273 | | |

Самую вялікую групу выданняў складала грамадска-палітычная літаратура – 2543, або 38,5 % ад агульнай колькасці выданняў. Гэта былі палітычныя кнігі ахоўніцкага кірунку (78), па статыстыцы народанасельніцтва і яго міграцыі (70), аб эканамічным і культурным жыцці гарадоў і паветаў (31), аб дзейнасці розных сацыяльных арганізацый (17), па праву і юрыспрудэнцыі (66).

Затое філасофская літаратура была прадстаўлена толькі двума выданнямі па логіцы і 16-цю па этыцы, што было вынікам цэнзурнай палітыкі, якая не дапускала ў друк даследаванняў, супярэчных царкоўнаму вучэнню. У канфідэнцыяльнай інструкцыі ад 23.8.1865 цэнзарам загадвалася «звяртаць увагу на тое, каб пад формаю вучоных артыкулаў і трактатаў не крылася недазволеная прапаганда атэізму, сацыялізму, матэрыялізму». Вельмі рэдка выпускалася ўласна палітычная літаратура. Яе выданне стрымлівалася ўрадам, які пакідаў гэта права за сталічным друкам.

Найбольшай колькасцю выданняў грамадска-палітычнага зместу прадстаўлена літаратура па гісторыі (350) і археалогіі (244) у большасці сваёй краязнаўчага характару, працы па этнаграфіі (57) і фальклору (17).

Павышаная цікавасць да вывучэння эканомікі краю, выкліканая развіццём прадукцыйных сіл краіны, адбілася на выданні кніг па праблемах мясцовай прамысловасці (больш за 30), фінансавых (380), аграрных пытаннях (43) і інш. Агульная колькасць выданняў эканамічнага характару склала 549 пазіцый: пытанні крэдыту, кааперацыі, меліярацыі (працы доктара сельскагаспадарчых навук А. Д. Дубаха, Я. Е. Эрдэлі, Я. У. Апокава і інш.), пашырэння землеўладання як сродку ўмацавання сялянскай гаспадаркі ў рамках існуючага ладу.

Параўнальна вялікімі былі групы выданняў па праблемах адміністрацыйнага кіравання (452), па пытаннях асветы, адукацыі і педагогікі; больш за 250 выданняў прысвечаны пытанням пастаноўкі сярэдняй агульнай і спецыяльнай школьнай адукацыі. Разам з тым тэматыка грамадска-палітычнай літаратуры Беларусі была намнога бяднейшая, чым тэматыка аналагічнай літаратуры, якая выдавалася ў цэнтральных губернях Расіі.

У XIX – пачатку XX ст. вялікую ўдзельную вагу мела рэлігійная літаратура – 1004 адзінкі, або 15,5 % (у 18 ст. яна складала палову ўсіх выданняў), у т. л. матэрыялы па гісторыі царквы (248), па праблемах узаемаадносін праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай цэркваў. Значную колькасць у ёй складала так званая варажбітная кніга (402), якая абяцала чалавеку тое, чаго не магла даць існуючая рэчаіснасць. У сваім імкненні падпарадкаваць навуку патрэбам самадзяржаўя і царквы ўрад негатыўна ставіўся да развіцця прыродазнаўства, бачачы ў ім сродак маральнага разняволення грамадства, абуджэння самасвядомасці народа. Асабліва падвяргаліся ганенням агульнадаступныя, папулярныя прыродазнаўчыя

творы, якія змяшчалі «думкі і дух, супраціўныя рэлігіі хрысціянскай, якія выяўляюць або вальнадумства, бязбожніцтва, нявер'е і ненабожнасць, або свавольства рэвалюцыйнай нястрыманасці, летуценнага філасофствавання, або ганьбаванне догматаў праваслаўнай нашай царквы» [Энгельгарт Н. А. Нарыс гісторыі рускай цэнзуры ў сувязі з развіццём друку (1703–1903). – СПб., 1904, с. 63]. Таму ў кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі XIX – пачатку XX ст. кнігі прыродазнаўчага і матэматычнага цыкла, якія бесперашкодна распаўсюджваліся ў XVIII ст., складалі нязначную колькасць – 142 выданні (па алгебры, геаметрыі і вышэйшай матэматыцы 61, па геадэзіі 24, па фізічнай геаграфіі 25, па батаніцы 12, па астраноміі 7, па хіміі 7, па бактэрыялогіі 2, г. зн. крыху болей, як па 1 кнізе на год). І гэта ў той перыяд, калі дзейнасць рускіх вучоных – даследчыкаў прыроды – набыла сусветную вядомасць.

Нешматлікімі выданнямі прадстаўлена і літаратура па медыцыне (207 назваў). Яна выдавалася, як правіла, урачамі-практыкамі (у канцы XVIII – 1-й палове XIX ст. 60 урачоў беларускіх губерняў мелі ступень доктара медыцыны) і ў пэўнай меры выконвала функцыі інструкцыі па аказанню першай медыцынскай дапамогі. Сярод гэтай літаратуры зусім няма выданняў па анатоміі; па адным выданні прыпадала на фізіялогію, паталогію, хірургію; па фармакалогіі выйшла 8, гінекалогіі 5, гігіене і санітарыі 13, ветэрынарыі 17 выданняў. Мала было выданняў па мастацтву (84), тэхніцы (77), тэхніцы кіравання (40), прамысловай хіміі (30), будаўнічай справе (20), дамаводству (10).

Крыху лепш было з сельскагаспадарчай літаратурай: асвятляліся праблемы жывёлагадоўлі (52), земляробства (56), паляводства (19), лесаводства (11), агародніцтва (15), пчалярства (5), аховы раслін (2) і інш.

Кнігі на рускай мове друкаваліся ў 39-ці гарадах і мястэчках Беларусі (у XVIII ст. кнігавыданнө вялося ў 7-мі гарадах). Найбольш буйнымі кнігавыдавецкімі цэнтрамі былі губернскія гарады Мінск (2308 кніг), Магілёў (1319), Віцебск (1007), Гродна (586). Пра тое, як размяркоўвалася кніжная прадукцыя паводле месца выдання, могуць сведчыць наступныя даныя (не ўключаны кнігі, на якіх не пазначана месца выдання): Ашмяны – 27, Бабруйск – 175, Баранавічы – 9, Барысаў – 81, Брэст-Літоўск – 64, Быхаў – 15, Віцебск – 1007, Гарадок – 5, Глыбокае – 2, Гомель – 257, Горкі – 29, Гродна – 586, Заслаўе – 12, Ігумен – 25, Клецк – 1, Клімавічы – 9, Лепель – 15, Ліда – 1, Любань – 1, Ляхавічы – 1, Магілёў – 1319, Мазыр – 121, Маладзечна – 1, Мінск – 2308, Мсціслаў – 17, Навагрудак – 5, Нясвіж –

